**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 12.00 yearly.

**„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.**
**Выходзіць месячна.** Рэдагуе Калегія.
**Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.**
Выпіска зь перасылкаю — 12.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Ю. АНДРОПАЎ І БЕЛАРУСЫ

Сучасны лідэр Савецкага Саюзу Юры Андропаў з самага пачатку сваё партыйнае кар'еры меў дачыненьне да працы органаў дзяржаўнае бясьпекі, у тым ліку да вывазу жыхарства зь Беларусі. Пра гэта пішацца ў кнізе двух амэрыканскіх саветолягаў, Арнольда Байхмана й Міхала Бэрнштама „Андропаў: новы выклік Захаду. Палітычная біяграфія".

(Andropov. New Challenge to the West. A political biography by Arnold Beichman and Mikhail S. Bernstam. Introduction by Robert Conquest. New York, Stein and Day Publishers, 1983. 255 p.).

Гэтая цікавая й аўтарытэтная кніга дае шмат біяграфічнага матар'ялу з даўгое кар'еры новага савецкага „правадыра". Кар'ера Андропава (нар. 15.VI.1914 г. каля гор. Стаўрополю на Паўночным Каўказе) пачалася даволі рана на раўнуючы высокім узроўні, ад самага пачатку была зьвязаная з органамі дзяржаўнае бясьпекі. Кар'ера гэтая праходзіла ў бязупынным нутрана-партыйным змаганьні, у якім трэба было ўмець выбіраць бакі, асабліва за часамі Сталіна, каб не скаціцца далоў у якую-небудзь глухую правінцыю або не апынуцца, як некаторыя, на тым сьвеце.

Андропаў, як ведама, на працягу 18 гадоў стаяў на чале органаў дзяржаўнае бясьпекі СССР. Аўтары адзначаюць, што ніхто зь іхных папярэднікаў на гэтым становішчы не сягнуў гэтак высака як Андропаў. А пяцёх зь іх (Ягода, Яжоў, Бэрыя, Мяркулаў і Абакумаў) скончылі тым, што былі расстраляныя. У сувязі з гэтым аўтары кнігі завуць Андропова „грэйт сурвайвор" (вялікі выжывальнік).

Дачыненьні зь Беларусамі ў Андропава пачаліся яшчэ ў 1940 годзе, калі яму было ўсяго 26 гадоў. Андропаў быў пасланы тады на пасаду кіраўніка камсамолу новастворанае Карэла-Фінскае рэспублікі. Узначальваны Андропавам карэла-фінскі камсамол (23 тыс. асобаў) займаўся выконваньнем аднаго нязвычайнага заданьня: дапамагаў органам бясьпекі высяляць мясцовае жыхарства ды засяляць рэспубліку людзьмі, вывезенымі зь Беларусі, Украіны ды цэнтральных раёнаў Расеі. Сталін ператварыў Карэлію ў месца інтэнсыўных лесанарыхтовак. З рэспублікі было вывезена мясцовага жыхарства ды ў яе завезена высяленцаў зь іншых раёнаў ўсяго разам больш за 320 тыс. асобаў. Праводзіў гэтую жорсткую апэрацыю войскі НКВД. Але, як кажацца ў афіцыйнай гісторыі карэла-фінскае кампартыі, камсамол рэспублікі быў „баёвым арганізатарам" гэтых мерапрыемстваў. А сакратаром карэла-фінскага камсамолу быў Юры Андропаў.

Аўтары кнігі пішуць, што калі ў 1940-х гадох на вярхох партыі вялося змаганьне паміж прыхільнікамі Жданава ды Маленкова, Андропаў быў у лягеры жданаўцаў. Ягонымі апякунамі даўгі час былі тады Патолічаў і Ігнацьеў, кар'еры якіх у 1940-50-х гадох праходзілі на Беларусі. Калі ў верасьні 1952 г. быў раптоўна зьняты з пасады кіраўнік органаў дзяржаўнае бясьпекі Беларусі М. Цанава, стаўленік Бэрыі, паўстала пытаньне, кім яго замяніць. Дарэчы, як зазначаюць аўтары кнігі, пасада кіраўніка органаў дзяржаўнае бясьпекі на Беларусі ўважаецца за адну з найвышэйшых пазыцыяў у Савецкім Саюзе. Восьж-на месца Цанавы быў прызначаны малаведамы тады Міхаіл Баскакаў. Баскакава ня зналі ані Ігнацьеў, галава ўсесаюзнага міністэрства дзяржаўнае бясьпекі, ані Пегаў, шэф аддзелу кадраў у ЦК КПСС, ані Патолічаў, першы сакратар ЦК кампартыі Беларусі. Але Баскакаў, пішуць аўтары кнігі, быў даўным прыяцелям Андропава з часоў Карэла-Фінскае ССР, дзе Баскакаў займаў становішча спачатку заступніка галавы, а пасьля й галавы органаў бясьпекі. Прызначэньне Баскакава да міністра дзяржаўнае бясьпекі БССР, на думку аўтараў кнігі, не магло абыйсьціся без рэкамэндацыі Андропава, які, гэткім парадкам, ужо ў 1952 г. карыстаўся вялікім даверам у Крамлі. Баскакаў, дарэчы, прабыў на становішчы кіраўніка дзяржаўнае бясьпекі Беларусі да 1958 г. і зрабіў ня менш за свайго папярэдніка Цанаву ў вынішчэньні беларускага нацыянальнага элемэнту, асабліва пасьля чырвеня 1953 г., калі ў рэзалюцыі ЦК КПСС моцна быў раскрытыкаваны М. Патолічаў за нястачу пільнасьці ў ідэялягічным змаганьні.

Кнігу „Андропаў: новы выклік Захаду" варта прачытаць усім, хто цікавіцца жыцьцём у Савецкім Саюзе.

**Вітаўт Кіпель**

# НЕПРАПАРЦЫЯНАЛЬНАЯ РОЛЯ КПБ

Кіраўніцтва кампартыі Беларусі не адыграе ў усесаюзнай палітыцы прапарцыянальнае ролі, якая належалася-б кампартыі рэспублікі, што стаіць на чацьвертым месцы лікам свайго жыхарства (пасьля Расеі, Украіны й Узбэкістану). Гэткае меркаваньне выказаў праф. палітычных навукаў Дэлявэрскага ўнівэрсытэту Яраслаў Білінскі ў артыкуле, зьмешчаным у ліпенска-жнівенскім нумары „Проблемс оф Комунізм" (выдаецца ў Вашынгтоне Інфармацыйнай Службай ЗША).

Артыкул праф. Білінскага напісаны пра кіраўніка кампартыі Украіны Ўл. Шчарбіцкага ды ягоныя дачыненьні з Брэжневам і Андропавам. Аўтар артыкулу робіць невялікі экскурс і ў справы савецкае Беларусі.

На Беларусі, піша праф. Білінскі, палітыка русыфікацыі праводзіцца йшчэ больш як на Ўкраіне. Але патрыёты Беларусі бароняць сваю мову, часамі ўмелымі мерапрыемствамі. Гэтак, у 1975 г. беларускі касманаўт палкоўнік Пётра Клімук узяў з сабою ў касьмічнае падарожжа зборнік вершаў Якуба Коласа, зь якога ён чытаў у космасе свайму калегу расейскаму касманаўту Віталю Севасьцянаву. Яшчэ адзін касманаўт-Беларус Уладзімер Кавалёнак чытаў вершы Васіля Зуёнка ў часе касьмічнага палёту. Абедзьве гэтыя падзеі былі з гордасьцяй адзначаныя на восьмым зьезьдзе беларускіх пісьменьнікаў у 1981 годзе.

Згадвае праф. Білінскі ў сваім артыкуле і пра абарону беларускае мовы ведамым мовазнаўцам савецкае Беларусі Фёдарам Янкоўскім, пра ананімны самвыдавецкі „Ліст да расейскага сябры", а таксама пра ананімную паэму „Сказ пра Лысую гару".

У сувязі з частымі зьменамі ў кіраўніцтве кампартыі Беларусі (першыя сакратары апошнімі трыма гадамі: Машэраў — Кісялёў — Сьлюнькоў) ды спадам ліку Беларусаў у складзе ЦК кампартыі Савецкага Саюзу (зь 10-ёх у 1976 г. да 8-ёх у 1981 г.), а таксама ў сувязі із зьняцьцем Кірылы Мазурава з пасады першага заступніка Старшыні Савету Міністраў СССР й вывадам яго із складу Палітбюро, праф. Білінскі зазначае: ня выглядае, каб кіраўніцтва кампартыі Беларусі магло адыграць паважную ролю ў усесаюзнай палітыцы, хоць Беларусы, як нацыянальнасьць, што стаіць на чацьвертым месцы ў Савецкім Саюзе, заслугоўвалі-б на гэткую ролю.

**Я. З.**

## З. БЖЭЗІНСКІ ПРА БЕЛАРУСАЎ

Прафэсар Калюмбійскага ўнівэрсытэту др. Зьбігнеў Бжэзінскі, былы дараднік прэзыдэнта ЗША Дж. Картэра, выступаў у сталіцы Канады Атаве на канфэрэнцыі Міжнароднага Інстытуту Стратэгічных Дасьледваньняў. Канфэрэнцыя разглядала шанцы зьменаў савецкага ладу ў кірунку да больш плюралістычнага й мірнага рэжыму.

Праф. Бжэзінскі ў сваім дакладзе гаварыў, што Расейцы, якія дамінуюць у кіраўнічых органах СССР, не дапусьцяць да зьменаў на карысьць плюралізму. „Гэткія зьмены, — сказаў Бжэзінскі, — далі-б іншым нацыянальным групам, гэткім як Украінцы й Беларусы, больш улады ў цэнтральным урадзе ды паставілі-б пад пагрозу кантроль, які маюць Расейцы".

Пра выступленьне праф. З. Бжэзінскага падала газэта „Нью Ёрк Таймс" зь 9 верасьня 1983 году.

# ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

### НЬЮ ЁРК

Сёлета адзначаліся 25-ыя ўгодкі ад часу, калі была прынятая Кангрэсам ЗША у 1959 г. пастанова аб адзначаньні Тыдня Паняволеных Народаў у Нью Ёрку і ў Белым Доме ў Вашынгтоне.

Тыдзень Паняволеных Народаў пачаўся ў нядзелю 10-га ліпеня шматлюдным парадам у Нью Ёрку па Пятай авэню да катэдральнага касьцёла сьв. Патрыка, дзе багаслужба была прысьвечаная памяці ахвяраў Паняволеных Народаў.

Пасьля багаслужбы парад скіраваўся ў Цэнтральны Парк, дзе адбыўся мітынг. Прадстаўнікі Беларуска - Амэрыканскага Задзіночаньня, з сьцягамі й плякатамі з гонарам рэпрэзэнтавалі Беларусь.

У чацьвер 14-га ліпеня адбыўся музычны канцэрт, на якім чыталіся прысланыя прывітаньні й праклямацыі ад губэрнатараў шмат якіх штатаў ЗША. Адказнымі за імпрэзу былі Румыны, а Беларусаў рэпрэзэнтавалі сп. А. Шукелойць і Р. Станкевіч.

У суботу 16-га ліпеня быў наладжаны ў кітайскім рэстаране у Мангэтане банкет у гонар заслужанага кітайскага антыкамуністычнага дзеяча др. Ку Чэнг Канга.

Ад Беларусаў былі запрошаныя сп. А. Шукелойць, старшыня БАЗА, Р. Станкевіч і В. і Дж. Станкевічы, др. А. і Ф. Рамана.

З нагоды Тыдня Паняволеных Народаў Прэзыдэнт Рональд Рэйган у аўторак 19-га ліпеня выступіў у Белым Доме з прамовай перад прадстаўнікамі Паняволеных Народаў. На гэтую сустрэчу былі запрошаныя старшыня і сябры галоўнае ўправы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Ад імя ўсіх іх у Вашынгтон езьдзіла Раіса Станкевіч, сяброўка галоўнай управы БАЗА.

Да ўвагі чытачоў некаторыя цытаты з прамовы Прэзыдэнта:

„Наша пасланьне да вас гэткае: Ваша змаганьне — гэта наша змаганьне. Вашыя лятуценьні — гэта нашыя лятуценьні і прыйдзе той дзень, калі вы таксама будзеце свабодныя".

Далей у сваёй прамове Прэзыдэнт зазначыў: „Шмат якія ўрады гвалтуюць правы чалавека, і Амэрыка павінна супрацівіцца гэтаму". Прыгэтым Прэзыдэнт сказаў, што ада гэтак званая рэвалюцыйная дзяржава (СССР) ставіць сябе вышэй за Бога, намагаецца поўнасьцяй кантраляваць жыцьцё сваіх грамадзянаў ды імкнецца захапіць усё больш і больш тэрыторыі.

„Калі камунізм мае быць хваляй будучыні, — зазначыў Рэйган, — дык навошта яму ўсё йшчэ патрэбная сьцены, каб трымаць у іх людзей, ды арміі й сакрэтная паліцыя, каб змушаць іх да маўчаньня. Хоць дэмакратыя не дасканалая форма ўлады, — сказаў прэзыдэнт ЗША, — адважныя людзі, рызыкуючы жыцьцём і свабодай, уцякаюць не ад дэмакратыі, а да дэмакратыі ад камунізму".

**Р. Станкевіч**

### ЛЁС АНДЖЭЛЕС

Зь ініцыятывы арганізацыі „Амэрыканцы за Свабоду Паняволеных Народаў" (старшыня др. Альгерд Клейнат) сёлетнія ўгодкі Тыдня былі адзначаныя ў касьцельных бюлетэнях весткай і заклікам да малітваў за народы, што церпяць уціск і перасьледы. Галоўная багаслужба адбылася ў суботу 23 ліпеня ў касьцеле сьв. Базыля з удзелам прадстаўнікоў паняволеных народаў з нацыянальнымі сьцягамі. Багаслужбу адпраўлялі супольна пяць сьвятароў — зь іх чатыры зь іншых парахвіяў. У ўрачыстасьці ўзялі ўдзел і беларускія прадстаўнікі із сваім сьцягам.

Вышэй названая арганізацыя выдала рэзалюцыю з заклікам да ўзмацненьня змаганьня за свабоду паняволеных краёў, у тым ліку й Беларусі.

Вестка аб Паняволеных Народах была зьмешчаная ў тыднёвай каталіцкай газэце „Тайдынгс", а таксама пададзеная ў польскіх і лятувіскіх радыяперадачах.

**Н.**

### МЭЛЬБУРН (АЎСТРАЛІЯ)

Тыдзень Паняволеных Народаў быў урачыста адзначаны ад 17-га па 23-га ліпеня Радай Паняволеных Народаў Штату Вікторыя. На экумэнічнай багаслужбе ў вялізарнай каталіцкай катэдры былі групы: баўгарская, беларуская, віетнамская, вугорская, латыская, лятувіская, польская, румынская, славацкая, украінская й эстонская. Ганаровую варту пры нашым сьцягу трымалі нашы вайсковыя вэтэраны. У часе багаслужбы былі прачытаныя малітвы ў нацыянальных мовах удзельнікаў урачыстасьці. Малітву пабеларуску прачытала сп-ня Надзя Груша.

Прыгожую й зьместоўную казань на тэму зацiску свабоды й нацыянальных традыцыяў у падкамуністычных краінах сказаў а. др. Б. Флемінг.

Па багаслужбе адбыўся паход да будынку штатавага парляманту, дзе быў праведзены мітынг.

Заканчэньнем Тыдня быў баль 23 ліпеня, на які зьявіліся ня толькі прадстаўнікі этнічных групаў, але й Аўстралійцы. Сакратар Рады Паняволеных Народаў сп-ня Т. Краль з задаваленьнем падкрэсьліла, што ўсё больш і больш моладзі бярэ ўдзел у імпрэзах і ўрачыстасьцях гэтае арганізацыі.

Актыўны ўдзел у арганізаваньні й правядзеньні балю ўзялі й Беларусы.

# 10-ГОДЗЬДЗЕ АЙЦА АЛЯКСАНДРА

Парахвіяне царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд Парку, Н. Дж. (ЗША), 31-га ліпеня сёлета адзначалі 10-годзьдзе службы ў парахвіі а. Аляксандра (Яноўскага). Урачыстасьць супала з побытам у Гайленд Парку Архіепіскапа Мікалая, Першагіерарха БАПЦ, за здароўе й памысьнасьць працы якога быў адслужаны малебен.



**За сьвяткавальным сталом (зьлева направа): сп-ня Ж. Дубяга, а. Аляксандар, Уладыка Мікалай, а. Карп, інж. В. Русак.**
Фота А. Дубягі.

Уладыка Мікалай узнагародзіў а. Аляксандра з нагоды ягонага юбілею залатым крыжам, а сп.сп. В. Русаку й П. Кажуру даў пахвальныя граматы за іхны вялікі ўклад у царкоўна-арганізацыйнае жыцьцё.

Сястрыцтва парахвіі (старшыня сп-ня Жэня Дубяга) наладзіла з нагоды сьвята абед. Ад імя парахвіянаў вітаў Уладыку Мікалая на пасадзе Першагіерарха, юбіляра а. Аляксандра ды айцоў Карпа й Якуба сп. В. Русак. Пра свайго шматгадовага супрацоўніка й аднадумца сп. П. Кажуру прамоўца сказаў, што з гэткімі аптымістычнымі людзьмі, як сп. Кажура, добра працаваць і прыемна быць разам узнагароджаным.

Сп-ня Галіна Русак у сваёй прамове сказала, што хоць у залі гэтай людзі з розных частак Беларусі, якія пакінулі родны край у розныя часы, усіх іх лучыць адна беларуская ідэя. Супольна прапяяная песьня „Люблю наш край" як нельга лепш пацьвердзіла слушнасьць выказваньня сп-ні Русак.

Айцец Карп гаварыў пра цяжкасьці, зь якімі ён напаткаўся ў парахвіі БАПЦ у Дораты, пра перашкоды ў ягонай сьвятарскай працы ды пра сілу веры, зь якою ён гатовы далей несьці свой цяжкі крыж.

Сп. П. Кажура ад імя аддзелу БАЗА вітаў Уладыку Мікалая ды айцоў, упаасобку а. дыякана Якуба, які вельмі шмат працуе ў парахвіі Жыровіцкае Бажое Маці. Гаворачы пра а. Аляксандра, сп. Кажура адзначыў ягоны вялікі ўклад у жыцьцё парахвіі й дзейнасьць аддзелу БАЗА. Прысутныя прасьпявалі а. Аляксандру энтузіястычнае й шчырае „Многая лета".

Прамаўлялі таксама: сп.сп. Ул. Русак, Ал. Міцкевіч, Л. Норык, Я. Запруднік.

У слове настаўленьня Уладыка Мікалай гаварыў пра тое, што калі дабро накідаецца гвалтам, яно стаецца злом; што хрысьціянства пашырацца любоўю; што трэба мець сілу супраціўіцца гвалту, але таксама трэба мець сілу выбачаць тым, хто, думаючы, што робіць дабро, на самой рэчы робіць зло.

Айцец Аляксандар, які свой сьвятарскі шлях пачаў 23 гады таму, гаварыў у сваім выступленьні і пра цяжар крыжа, і пра вялікую ўзнагароду, якую сьвятар адчувае, калі бачыць удзел вернікаў у багаслужбах. Гэткую ўзнагароду, сказаў а. Аляксандар, ён, як сьвятар, гатовы прыймаць штонядзелі. Прывітаўшы сп.сп. В. Русака й П. Кажуру з атрыманымі імі пахвальнымі граматамі, а. Аляксандар падзякаваў прамоўцам, сястрыцтву за наладжаны абед ды адзначыў выдатную ролю жанчын у царкоўным жыцьці. Уладыку Мікалаю прасьпявалі „Многая лета".

Сп-ня Жэня Дубяга, ад імя сястрыцтва, падзякавала Уладыку Мікалаю за ўдзел у ўрачыстасьці, адзначыла вялікія заслугі сп.сп. В. Русака й П. Кажуры ў жыцьці парахвіі („нашы сьцены") ды пажадала ўсім усяго найлепшага.

**Я.З.**

## ПАДЗЯКА

Яго Высокапрэасьвяшчэнству Архіепіскапу Мікалаю, сястрыцтву, парахвіяльнай радзе, парахвіянам, прыяцелям ды ўсім прысутным на банкеце, які зладзіла сястрыцтва парахвіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлянд Парку, Н. Дж., з нагоды майго 10-гадовага служэньня ў парахвіі, сардэчнае беларускае дзякуй!

**Айцец Аляксандар**

## „ЗВАЖАЙ" № 3 (31)

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Верасень 1983 г. У нумары: верш К. Акулы „За волю!"; карэспандэнцыя „Ўшанавалі сьцяг і пісьменьніка"; артыкулы В. Сянькевіча „Этнічны фактар пры камплетаваньні падахвіцэрскіх і ахвіцэрскіх кадраў у савецкіх узброеных сілах" і „Да пытаньня нацыянальнай ваеннай гісторыі Беларусі"; „Афганская вайна вачамі савецкіх ваякаў"; арт. Язэпа Барэйкі „Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада"; рэцэнзія; хроніка.

# ЖЫЦЬЦЁ, АДДАДЗЕНАЕ МУЗЫЦЫ

(Эльзе Зубковіч - замест некрэлёгу)



Эльза Зубковіч у 1971 г.

Чацьвертага чырвеня 1983 г., на 88-ым годзе жыцьця, памерла ў Нью Ёрку Эльза Рабэртаўна Зубковіч — піяністка, кампазытар, музыкавед, імя якое было шырака ведамае беларускаму грамадзтву ў Амэрыцы, як сталае ўдзельніцы беларускіх урачытасьцяў і канцэртаў, а таксама ўзгадавальніцы новага пакаленьня піяністаў. Усё даўгое, зьмястоўнае й шматграннае жыцьцё Эльзы Зубковіч прайшло пад знакам музыкі. Музыка была зьместам і сэнсам ейнага жыцьця — усё іншае, матар'яльнае ці палітычнае, яе мала цікавіла й заставалася збоку. Сталым ейным спадарожнікам было фартэпіяна, якому яна даверала ўсе свае думкі й лятуценьні.

Ведамая расейская пісьменьніца Ірына Сабурава ў сваёй кнізе „Поездка к читателям" успамінае, як Эльза Зубковіч, зь якою яе зьвёў лёс у ўцякацкія гады ў Нямеччыне, у халодным бараку лягеру ДП, на разьбітым фартэпіяна сінебарвовымі пальцамі, але з палкім натхненьнем, грала санату Грыга.

Нішто не магло яе зламаць, ейная энэргія была запраўды невычарпальная. Навет у апошнім часе свайго жыцьця, не зважаючы на немалады ўжо век, яна была поўная новых творчых задумак і клопатаў з выданьнем сваіх фартэпіянных прэлюдыяў і вакальных зборнікаў на словы беларускіх паэтаў — „Край мой васільковы" ды на словы Сабуравай — „Осенние падают листья", дзе дасьпелае майстроўства спалучаецца із сьвежасьцяй і беспасярэднасьцяй. Шмат якія з гэтых песьняў ужо ад гадоў выконваюцца на канцэртах, заўсёды выклікаючы ўхвалу слухачоў.

Эльза Зубковіч не пакідала фартэпіяна да апошніх гадоў жыцьця, пераглядала й выпраўляла свае кампазыцыі, або грала творы сваіх улюблёных аўтараў: Брамса, Шумана, Грыга, бо да канца захавала фэнамэнальную музыкальную памяць. Толькі апошні год прынёс ёй вялікае гора — цяжкая хвароба пальцаў зрабіла немагчымай ігру на фартэпіяна. Нашчасьце, гэты трагічны перадсьмяротны час вымушанага адрыву ад улюблёнага інструмэнту быў нядоўгі...

Нялёгкі быў жыцьцёвы шлях Нябожчыцы. Яна нарадзілася ў 1895 г. ў Менску, у сям'і доктара мэдыцыны Робэрта Пілемана, выхадца з Эстоніі. Сям'я была музыкальная, музыку любілі й ведалі яе. Бацька добра граў на йскрыпцы, маці сьпявала й была пасунутай піяністкай. „У доме часта зьбіраўся гурток аматараў клясычнай музыкі, — успамінае Эльза ў сваёй аўтабіяграфіі, — у цэнтры гэтага гуртка стаяў малады, таленавіты піяніст і арганіст Кімэль, які з запалам выконваў тады йшчэ мала ў нас ведамыя творы Грыга, Рахманінава й Скрабіна, якія слухала з захапленьнем".

Вельмі рана, яшчэ да сыстэматычных заняткаў з настаўніцай музыкі, дзяўчынка ўжо прыдумвала собскія п'ескі, якія ўкладала ў „Дзіцячы музычны альбом", ейны першы кампазытарскі опус. Нажаль, у тагачасным Менску не знайшлося дазнанага пэдагога кампазыцыі, але ў піяністычнай галіне Эльза хутка дасягнула значных удачаў з боку тэхнічнага й выканальнага.

Выдатна скончыўшы менскую музычную школу, яна пачала рыхтавацца ў кансэрваторыю, але вайна 1914 году перашкодзіла гэтаму намеру. Эльза засталася ў Менску й працавала ў шпіталі, дзе галоўным лекарам быў ейны бацька. І, як гэта ні дзіўна, вайна дапамагла маладой піяністцы далей працягваць музычную асьвету, бо ў Менску адбываў ваенную службу выдатны музыкант-пэдагог, прафэсар Варшаўскае кансэрваторыі Георгі Жураўлёў, зь якім яна прайшла поўную праграму кансэрваторскага курсу для фартэпіяна. „Ягоныя лекцыі былі надзвычайна цікававыя й каштоўныя", — успамінае пазьней ягоная вучаніца. Але цяга да кампазыцыі ня спынялася, узьнікалі ўсё новыя творы, і ўсё мацней адчувалася нястача музычна-тэарэтычнай асьветы. І вось тут выявілася воля й настойлівасьць Эльзы — зрабіць усе захады, каб дасягнуць запаветную мэту: атрымаць кампазытарскую адукацыю.

Азнаёміўшыся з творамі ведамага ў тым часе кампазытара Паўля Юона, які быў дэканам кампазытарскага факультэту Бэрлінскае кансэрваторыі, Эльза Пілеман цьвёрда пастанавіла, што станецца ягонай вучаніцай. Цаной вялікіх цяжкасьцяў ёй удалося выклапатаць у 1920 г. ад польскіх уладаў дазвол на падарожжа ў Бэрлін, дзе яна спаткалася з праф. Юонам і паказала яму свае творы. Юон адразу ацаніў кампазытарскія здольнасьці Эльзы й ахвотна залічыў яе ў сваю клясу. Пад ягоным кіраўніцтвам яна вывучала музычна-тэарэтычныя дысцыпліны й тэорыю кампазыцыі. Апрача гэтага, яна слухала на Тубінгэнскім унівэрсытэце лекцыі праф. Карля Гассэ, аднаго з выдатных вучняў кампазытара Макса Рэгера. Па фартэпіяна яна была залічаная ў клясу ведамае піяністкі-пэдагога Веры Прэсэс, вучаніцы Ф. Бузоні. Важнае значаньне ў тэарэтычных і практычных занятках надавалася творчасьці кампазытараў Брамса, Рэгера й Грыга, замілаваньне да якіх Эльза захавала на ўсё далейшае жыцьцё й цірааз зьвярталася да іх у сваёй піяністычнай і музыкаведнай дзейнасьці. Вынікі заняткаў у Бэрлінскай кансэрваторыі былі нагэтулькі выдатнымі, што Эльзе прызначылі стыпэндыю. Але палітычныя падзеі йзноў усё зьмянілі.

У Менск вярнуліся бальшавікі, памёр бацька, трэба было варочацца дамоў, каб матар'яльна падтрымаць маці.

На параду Юона Эльза зьвярнулася да дырэктара Штутгарцкае кансэрваторыі Курта Адлера з просьбай дазволіць атрымаць дыплём экстэрнам, чаго не дапушчалася ў Бэрліне. Атрымаўшы ў 1922 г. дыплём піяністкі-пэдагога, яна вярнулася да маці ў Менск, дзе пачала пэдагагічную дзейнасьць, спачатку ў музычнай школе, а пасьля ў тэхнікуме й кансэрваторыі.

Ад кампазыцыі мусіла адмовіцца, бо працаваць даводзілася шмат, каб зарабіць на штадзённы хлеб. У гэтым часе Эльза выйшла замуж за опэрнага сьпевака барытона Міколу Зубковіча, але й тады мала што матар'яльна зьмянілася, бо муж, як сын сьвятара, мусіў згаджацца на кожную працу, навет з зусім нізкой аплатай. Сямейнае жыцьцё Эльзы Зубковіч было шчасьлівае, асабліва калі яна сталася маці дзьвюх дачок, хоць за клопатамі аб іхным узгадаваньні й адукацыі было не да творчасьці.

Упяршыню я спаткаў Эльзу Зубковіч у 1937 г., калі яна працавала ў Беларускай Дзяржаўнай Кансэрваторыі ў Менску, дзе яна ачольвала катэдру агульнага фартэпіяна, а я быў ськіраваны ў Менск па сканчэньні Маскоўскае кансэрваторыі, як загадчык вучэбна-навуковай часткі кансэрваторыі й пэдагог гісторыі музыкі. Прыгадваю першае ўражаньне ад гэнай сустрэчы. Невялікая спакойная жанчына з тонкім тварам, абрамленым хвалістымі цёмнымі валасамі, з задумёнымі вачыма й ціхім голасам, заўсёды прыветлівая й далікатная, яна міжвольна выклікала сымпатыю.

Хутка я даведаўся, што яна карыстаецца вялікім аўтарытэтам паміж калегаў, ня толькі як выдатная піяністка й чульлівы ўдумлівы пэдагог, але й як музыкавед з глыбокімі тэарэтычнымі й гістарычнымі ведамі. Не зважаючы на сваю эрудыцыю, яна ніколі ня ставіла сябе вышэй за іншых ды заўсёды была гатовая дапамагчы калегам добрай парадай.

Катэдра агульнага фартэпіяна ахапляла студэнтаў усіх факультэтаў, бо вывучэньне ігры на фартэпіяна было абавязкавым для кожнай спэцыяльнасьці. Маючы вялікую пэдагагічную нагрузку, Эльза Зубковіч адначасна вяла паважную музыкаведную працу ды здолела ўцягнуць у яе і іншых сяброў катэдры. Пад ёйным кіраўніцтвам катэдра агульнага фартэпіяна з другараднаае інстытуцыі ператварылася ў запраўдную навукова-дасьледную ўстанову.

Прыгадваю, які вялікі рэзананс і пахвальныя водгукі выклікаў у музыкантаў рэфэрат Эльзы Зубковіч пра фартэпіянную творчасьць Брамса, які яна зрабіла для пэдагогаў і студэнтаў кансэрваторыі. На прапановы з высокіх музычных інстанцыяў яна пачала пісаць кнігу аб вялікім нямецкім кампазытары. Праца павінна была стацца ейнай дысэртацыяй на ступень кандыдата музычных навукаў. Эльза Зубковіч шмат разоў езьдзіла ў Маскву для зьбіраньня ў бібліятэках патрэбнага паматар'ялу й пасьпела напісаць колькі разьдзелаў кнігі, якія прадставіла паседжаньню катэдры музыкі Маскоўскае кансэрваторыі.

Ня меншую зацікаўленасьць і ўвагу выклікалі й рэфэраты Эльзы Зубковіч аб творчасьці кампазытараў Рэгера й Грыга. Гэта быў плённы пэрыяд ейнае музычнае дзейнасьці.

Знаходзіла Эльза Зубковіч час і для творчасьці. На падставе беларускіх песьняў яна стварыла зборнік лёгкіх фартэпіянных мініятураў для пэдагагічнай працы з вучнямі. Зборнік гэты дастаў пахвалу праф. Залатарова, выхавальніка плеяды беларускіх кампазытараў — Багатырова, Лукаса, Падкавырава — і быў прапанаваны для выданьня.

Напісала Эльза Зубковіч у тым часе й шэраг рамансаў на словы беларускіх паэтаў, але шмат якія з гэных твораў былі забракаваныя, бо аўтары тэкстаў падпалі пад рэпрэсію. Увэртура на беларускія словы пад заг. „Будаўніцтва" часта выконвалася й за межамі енску.
выконвалася й за межамі Менску.

У лістападзе 1941 г. Эльза Зубковіч павінна была бараніць сваю дысэртацыю на ступень кандыдата музыкаведных навукаў, але пачалася вайна і ўсенароднае гора. Загінулі кампазыцыі, музыкаведныя працы, уся вялізная бібліятэка. Пачалося галоднае, халоднае, поўнае клопатаў і небясьпекі жыцьцё ў зруйнаваным Менску.

Эльза Рабэртаўна, маючы вялікую перавагу, веду нямецкае мовы, дзе й чым магла дапамагала сваім суродзічам у дачыненьнях зь нямецкімі ўладамі. Яна балюча перажывала, што ня можа дапамагчы сваім калегам з кансэрваторыі й студэнтам, якія былі кінутыя фашыстамі ў гета й загінулі там.

У 1943 г. яна з дочкамі была эвакуаваная ў акупаваную Польшчу ў горад Леслаў (цяпер Влоцлавэк), дзе яна працавала ў музычнай школе настаўніцай. Праз год, калі Немцы пакінулі Менск, да яе далучыліся ейны муж і я зь сям'ёй. Шмат высілкаў прыклала Эльза Зубковіч, каб і мяне прыладзіць пэдагогам у музычнай школе, але неўзабаве, у сувязі з ваеннымі падзеямі, усе нямецкія мастацкія ўстановы спынілі сваю дзейнасьць, і мяне з жонкай забралі ў польскі працоўны лягер пад Леслаў на будаўніцтва лініі абароны супраць савецкага наступу.

Капалі акопы, ставілі супрацьтанкавыя драцяныя загароды. Праца была вельмі цяжкая й жыцьцёвыя ўмовы жахлівыя, але й тут Эльза Зубковіч не пакінула нас і дапамагла нам перажыць гэты сумны час. Нядзелямі ад паўдня лягернікі былі вольныя ад працы, і мы з жонкаю прыяжджалі да Эльзы Рабэртаўны, якая зь нязьменнай гасьціннасьцяй прыймала нас, частавала, чым магла паводля сваіх сьціплых магчымасьцяў; я мог крыху пайграць на фартэпіяна ці паслухаць ейную музыку, ды гэтыя нядоўгія часіны маральнага адпачынку былі для нас адзінай радасьцяй у нашым тагачасным беспрасьветным жыцьці.

(Заканчэньне ў наступным нумары)

Алесь Карповіч

Іна Рытар-Каханоўская

# ЗЬ БЕЛАРУСКІМ СЭРЦАМ ДУМАЙ...

(Успамін. Працяг з Но. 311)

Міхась Б. — зь Беласточчыны. Ягоныя бацькі мелі хутар. Калі прыйшлі Саветы ў Заходнюю Беларусь, іхная сям'я трапіла ў сьпіс на вываз. Вываз быў прызначаны на сераду, а ў нядзелю пачалася вайна. Сям'я засталася на месцы, цудам выратавалася ад Сібіру.

Немцы адразу забралі ў палон безьліч савецкіх жаўнераў. За Бугам зрабілі ім лягер, дзе палонныя мерлі, як мухі, ад голаду, ад хваробаў. Найбольш сьмелыя зь іх, рызыкуючы жыцьцём, пачалі ўцякаць зь лягеру. Ішлі да людзей па вёсках, па хутарох, прасілі дапамогі. Людзі не адмаўлялі, кармілі іх, лекавалі параненых. Некаторыя палонныя, падмацаваўшы свае сілы, рушылі далей на ўсход. Некаторыя прасіліся застацца, згаджаліся дапамагаць у працы на гаспадарцы. Так Міхасёў бацька пакінуў у сваёй хаце двох савецкіх лейтэнантаў.

У пачатку зімы 1941 г. зьявілася шасьцёх савецчыкаў, якія ўпотай пачалі наведваць былых палонных, намаўляць іх, каб ішлі ў партызаны. Тыя не згаджаліся, перасьцерагалі людзей, што гэта сьцінутыя Масквою на парашутах НКВДыстыя. Хутка гэтая шасьцёрка ўзьняла тэрор супраць вяскоўцаў. Людзі як маглі бараніліся ад яе. Лейтэнанты параілі Міхасёваму бацьку паставіць на вокны зь сярэдзіны хаты драўляныя шчыты. Аднак шчыты мала дапамаглі супраць бяды.

Была сыбота Коляднага часу. У хаце панаваў сьвяточны настрой. Цётка з дачкой-падлеткай, сяброўкай Міхасёвых малодшых сёстраў, прыехала ў госьці. Моладзь бавіла час у сьвятліцы, а бацька зь лейтэнантамі на кухні гулялі ў карты. Нехта пастукаў у дзьверы з двара. Бацька пайшоў, запытаўся:

— Хто тут?

— Открой!

У сенцы прыбег Міхась папярэдзіць бацьку:

— Тата, мы ў сьвятліцы загасілі лямпу й праз шчыліну ў шчыце бачылі, што ад дарогі да нашае хаты бягуць яшчэ пяцёх.

Дзьверы былі толькі на кручку. Бацька адразу заклаў на іх завалу.

— Открой, а то выставлю дверь, — пачулася пагроза з двара.

— Не адчыню, — адказаў бацька. — А калі хочаш есьці, ідзі да вакна, дамо табе хлеба.

Маці ўзяла баханак хлеба, пайшла ў сьвятліцу, адчыніла ў вакне над шчытом фортачку, падала на двор хлеб.

— Дай и сала!

— Добра, — паабяцала маці. — Зачыніла фортачку й пайшла ў камору па сала.

Лейтэнанты ўхапілі з-пад печкі сякеры, сталі ля вакон, гатовыя секануць па галаве кожнага, хто паспрабуе сілком лезьці ў хату. Вярнулася маці, перадала праз фортачку добры кавалак сала. Хацела зчыніць фортачку, з двара ёй не далі гэтага зрабіць. Рагаталі.

— Нет, теперь не закроешь! — а тады пачуўся загад: — Эй, давай гранату!

— У камору, хутчэй хавайцеся ў камору, — закрычалі абодва лейтэнанты й самі кінуліся бегчы зь сьвятліцы.

Перапалоханыя дзяўчаты й цётка пападалі на падлогу, палезьлі пад ложак. Адна сястра ледзь пасьпела схаваць пад ложак галаву, калі праз фортачку грымнула граната. Загаласілі, застагналі тыя, што засталіся ў сьвятліцы.

Грымнула другая граната... Тады настала цішыня.

У каморы некаторы час усе ня рухаліся, прыслухоўваліся, чакалі новага выбуху. Міналі хвіліны, цішыня працягвалася. Цішыня на двары. Цішыня ў сьвятліцы.

Міхась выйшаў у сенцы, палез на гару. Убачыў прабіты гранатным асколкам дах. Высунуў у дзірку галаву. На двары нікога ня было відаць. Ці адыйшліся, ці дзе стаіліся — цяжка было спраўдзіць.

З каморы было вакно ў сад. Бацька сказаў Міхасю:

— Лезь праз вакно. Бяжы да дзядзькоў у Баброўку па дапамогу.

Баброўка ад хутара ўсяго з паўкілямэтра. Міхась хутка вярнуўся адтуль зь людзьмі. На двары нікога ня было. У хаце апрытомнелі, енчылі ад болю моцна параненыя сёстры й цётка. Іх неадкладна трэба было везьці ў шпіталь.

***

Аўген К. — таксама сын хутараніна. Жыла іхная сям'я ў Дзісенскім павеце, недалёка ад мястэчка Юзна, раськінутага на прыгожых берагох двух вазёраў — Вялікае й Малое Язна. Сям'я мела ўзорны жывёлагадоўчы хутар.

Здарылася так, што напярэдадні якогась сьвята, увосені 1942 году, дзесяцігадовы Аўген зь сястрою й братам паехалі за сем кілямэтраў у госьці да дзеда й бабы. Паехалі самі, бо бацька быў заняты працаю ў валаснай управе Язны, а маці чулася хворай.

У той самы дзень значнае партызанскае згрупаваньне напала на Язну. Напад нечаканы. Ахоўная служба мястэчка складалася з 12-ці паліцыянтаў. Біцца ня было як. Пакінулі Язну. Партызаны ўзарвалі валасную ўправу, маслазавод, парабавалі людзей. Падарозе не абмінулі й хутара Аўгенавых бацькоў.

Нашчасьце, маці ўчас угледзела іх на хутарскай дарозе, пасьпела ўцячы з хаты, схавацца ў зарасьніку на лузе. Стуль яна бачыла, як сноўдалі партызаны па двары; ледзь не абамлела, калі прыйшлі забіраць коні, якія пасьвіліся побач зарасьніку. Чула, як лаяліся, шкадавалі, што не засталі гаспадароў. Яна баялася вярнуцца ў хату, калі партызаны пакінулі сядзібу. Начавала ў суседзяў, хутар якіх стаяў далей ад бальшака, і куды партызаны не заходзілі. Раніцою пайшла да сваіх бацькоў, дзе гасьцявалі дзеці.

„Калі ехалі ў госьці, — успамінае Аўген, — праз раку Авуту быў мост. Ехалі назад, маста ўжо ня было. У сваёй хаце знайшлі ўсё паразьбіванае, перавернутае. Харчы й вопратка пазабіраныя".

У хуткім часе Аўгенавы бацькі зь дзецьмі змушаныя

# СЬВ. ПАМ. ПАВАЛ НАВАРА

**(Успамін. Працяг з но. 311)**

За два тыдні перад зьездам у Лёндане, нашая група гімназістаў пастанавіла зладзіць традыцыйную Праваслаўную Куцьцю для ўсіх праваслаўных лягеру, бо былі тут курсы сельска-гаспадарчыя, кравецкія ды іншыя. Запрасілі мы на Куцьцю сваіх прафэсароў на чале з камандантам лягеру. Паўлу Навару, як выдатніку, даручылі функцыю галоўнага кіраўніка. Ягоным заданьнем было прывітаць усё лягернае начальства і сказаць пару слоў з нагоды Вечара, а я заняўся рыхтаваньнем „канцэрту", які складаўся з трох беларускіх калядак.

Куцьця пачалася кароткай багаслужбай, якую адслужыў а. Пятручык, а пасьля Навара вітаў гасьцей і ўсіх прысутных. Беларускія калядкі, якія мы вучыліся сьпяваць пацíху за баракам, на просьбу гасьцей, былі прасьпяваныя два разы. Але, як пасьля выявілася, праз гэты Сьвяты Вечар мы сьцягнулі на сябе перасьлед Пэдагагічнай Рады і лягернага кіраўніцтва. Першай ахвярай пасьля беларускага агульнага зьезду ў Лёндане быў праф. В. Грышкевіч, якога зволнілі з выкладчыка ў гімназіі, а Беларусаў-гімназістаў узялі на вока. Для нас стала зразумелым, што беларуская дзейнасьць у радох польскае арміі, не зважаючы на дазвол Галоўнага Штабу, была спаткана варожа.

У наш барак, у якім жыло апрача трох Беларусаў — П. Навары, М. Маліноўскага й мяне — і трох Палякоў, часта прыходзіў Беларус, ахвіцэр былой Беларускай Ахвіцэрскай Школы БКА ў Менску, К. Нор. Перад самай вайной ён скончыў тэхнічны ліцэй у Вільні і працаваў электрыкам у гэтым лягеры. Нор памятаў яшчэ і дэклямаваў Палякам з памяці „Пана Тадэуша" ды вынятків палаціне. Часамі нехта чытаў уголас „Беларускія Навіны", а ўсе слухалі. Даволі часта вялі мы з Палякамі розныя дыскусіі пра польска-беларускія дачыненьні. Мы не хаваліся са сваёю беларускасьцю, а пасьля заняткаў у гімназіі, гутарылі між сабою пабеларуску. Але сярод нас у бараку быў Паляк, капраль Масьлянка, і ён даносіў начальству, што мы робім і гаворым. За намі хадзіў цень.

Заняткі ў гімназіі ішлі нармальна. Павал Навара па ўсіх прадметах стаяў добра, а па матэматычных — выдатна. Хэмія, сказаў-бы я, была ягоным першым прадметам. Калі на запытаньне прафэсара Навара даваў адказ, то ў сваю чаргу прафэсар казаў: „То была одповедзь". Павал не ганарыўся сваймі здольнасьцямі, а нават памагаў слабейшым гімназістам у сваёй клясе. Адным зь іх быў сяржант падхаронжы Бутрым з нашага 17-га батальлёну. Быў ён шмат старшы векам чалавек. Расказваючы аднойчы сваю „біяграфію", Буртым сказаў, што перад вайной ён супрацоўнічаў з польскай паліцыяй ды памагаў ёй біць Беларусаў на пастарунку. Пасьля такой інфармацыі Павал перастаў памагаць яму ў занятках.

Час ішоў, а зь ім 9 травеня 1947 г. прыйшло й заканчэньне школьнага году. Пэдагагічная Рада пастанавіла загадзя ня даць Беларусам ходу да далейшай асьветы. Усіх нас мелі разаслаць па сваіх аддзелах. Навара і я загадзя зложылі заявы на курсы ангельскай мовы , але я хутка атрымаў сваю заяву назад з дописам, што мая просьба адкінутая — „Подане зостало оджуцонэ". 27-га травеня мяне адаслалі ў аддзел, які знаходзіўся каля Ашбуртона ў графстве Дэвон. Павал Навара яшчэ застаўся ў лягеры, але неўзабаве і яго перавялі ў другі лягер, недалёка ад Чысэльдону.

Я вярнуўся ў свой аддзел, а за нейкі тыдзень часу прыехаў туды й П. Навара. Застаў ён мяне ў кантыне за вячэрай. Я быў рады спаткаць яго й даведацца аб апошніх навінах у гімназіі. Павал у прысутнасьці Палякоў расказваў мне пабеларуску аб сваім спатканьні зь генэралам Н. Сулікам.

Справа Беларусаў польскае гімназіі дайшла, як бачым, да вушэй Суліка. Прыехаў генэрал у гімназію, каб пабачыць гэтых Беларусаў, але іх тут ужо ня было. Найбліжэй знаходзіўся П. Навара і Сулік паехаў да яго. І вось што расказаў мне Павал Навара:

— Вайшлі мы з ахвіцэрскага пакою прайсьціся й пагутарыць. Сулік абняў мяне за плячо, называў сынам, і распытваўся. Я расказаў так, як яно было ў запраўднасьці і Сулік са мною пагадзіўся. А яму нагаварылі, што мы ў гімназіі займаліся канспірацыяй. Пры нагодзе Сулік сказаў, што ў сваім часе, бывшы студэнтам у Пецярбургу, ён належаў да Беларускага Саюзу. На заканчэньне гутаркі Сулік сказаў, што я магу ісьці вучыцца далей ды каб паведаміў сваім сябром (Беларусам), каб яны складалі заявы ў ліцэй.

Здаецца, гутарка генэрала з Паўлам была прыязная, але ня зусім карысная для Беларусаў. Чаму П. Навара меў шукаць і паведамляць сваім сябром, каб яны складалі заявы ў ліцэй, а чаму гэтай справай не занялася дырэкцыя гімназіі? Апошнім часам дырэктарам гімназіі быў капітан Шчарбіцкі, з паходжаньня й выгляду — Татарын зь Беларусі. Знаў ён беларускую мову, але ня быў прыяцелям Беларусаў. Па спатканьні зь ген. Сулікам Навара меў войструю гутарку са Шчарбіцкім, як казаў Павал — „Я сьцяўся зь ім".

Павал Навара пайшоў вучыцца далей. Скончыў ліцэй, нейкі час працаваў у адным лёнданскім гатэлі ды адначасна рыхтаваўся на ўнівэрсытэт. Здаў экзамены, атрымаў стыпэндыю і залічыўся на Лёнданскі ўнівэрсытэт на факультэт матэматыкі, фізыкі й хэміі. У 1952 г. скончыў унівэрсытэт і працаваў хэмікам у розных лябараторыях аж да свае хваробы. Апрача П. Навары, удалося яшчэ Паўлу Асіповічу пайсьці вучыцца далей. Рэшта Беларусаў польскае гімназіі, не атрымаўшы адпаведнай асьветы, пайшла па ангельскіх хвабрыках шукаць шчасьця.

Трэба яшчэ прыгадаць той прыкры час, калі ў Нямеччыне ў лягерох ДП пачаўся падзел беларускай эміграцыі. Гэтая эпідэмія перакінулася і ў Ангельшчыну. Мая дарога з Паўлам Наварам разыйшлася. Ён пайшоў за БНР, а я застаўся пры БЦР. Павал даўжэйшы час быў сакратаром ЗБВБ (Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі), а я — сакратаром ХАБР (Хрысьціянскага Аб'яднаньня Беларускіх Работнікаў). Дзьве беларускія рывалізуючыя паміж сабою арганізацыі ў Вялікабрытаніі. Што праўда, спачатку ішлі паміж імі сваркі, але гэта за прэзыдэнтаў. Паміж Паўлам і мною ніколі ніякіх сварак ня было. Ён нават аднойчы наведаў мяне і ніколі не рабіў мне ніякіх закідаў, і я ніколі ня меў яму за зло, што ён заняў пазыцыю пры БНР.

На пачатку 1960 г. прыціхлі сваркі. Пачуліся галасы аб супрацы. Дзьве арганізацыі дамовіліся супрацоўнічаць, і тут зноў двух старых сяброў — цяпер сакратары — пачалі гутарыць мовай згоды. І гэтае супрацоўніцтва ў першых гадох паказала, што толькі супольнымі сіламі Беларусы могуць нешта зрабіць для сябе і паказаць навонкі чужынцам. Прыкладам гэтага было наладжаньне ў Лёндане ў 1962 г. 20-х угодкаў ад сьмерці Янкі Купалы, а пасьля ладзіліся супольныя нацыянальныя й рэлігійныя сьвяты.

Зазвычай, як надыходзіла нейкая гадавіна ці сьвята, якія ЗБВБ і ХАБР ладзілі супольна, то сьпярша двух сакратароў узгаднялі парадак. Магчыма таму, што я быў крыху старшы гадамі за Паўла, то звычайна ён пытаўся ў мяне: „Ну, як мы зладзім гэтым разам?" І ніколі паміж намі ня было непаразуменьня, зайздрасьці ці хітрасьці, каб высунуцца самому, або высунуць сваю арганізацыю наперад. Усё рабілася як роўны з роўным.

Наколькі мне ведама, часам П. Навара меў прыкрасьці з боку сяброў ЗБВБ за свае сымпатыі да ХАБР, але ён знаў, што робіць. Павал ня быў вузка партыйным выканаўцам загадаў згары, быў гэта чалавек здаровага розуму й вялікага сэрца, які трактаваў кожнага Беларуса як свайго брата, не зважаючы на яго палітычныя ці рэлігійныя перакананьні. Добра знаючы ангельскую мову, Павал няраз памагаў Беларусам у бядзе, ня пытаючыся ў іх, да якой арганізацыі яны належаць, ці зусім не належаць. Сьціплы быў ён чалавек, але абдораны добрым сэрцам і розумам.

Я наведваў Паўла ў клініцы, калі ён быў ужо цяжка хворы. Першы раз прынёс ён мне крэсла, селі мы і ўспаміналі сваё пройдзенае-мінулае. Калі наведаў яго апошні раз, Павал ляжаў у ложку, чуўся змучаны, стан ягонага здароўя значна пагоршаў, але ён вёў яшчэ са мною гутарку. На разьвітаньне падаў мне руку, падзякаваў за наведваньні ды на адыход памахаў яшчэ сваёю бледнаю, худою рукою.

За гады свае няўтомнай працы Павал здолеў здабыць пашану нават сярод чужых, зь якімі разам супрацоўнічаў. ЗБВБ страціла ня толькі прыкладнага Сябру, але й выдатнага працаўніка. Хваробу, а пасьля й сьмерць сьв. пам. Паўла Навары беларуская грамадзкасьць прыняла з балючым сэрцам. Довадам гэтага былі пахавіны, на якія зьехалася каля сотні Беларусаў і Ангельцаў - прыяцеляў. Пахавалі сьв. пам. Паўла Навару 2-га чэрвеня ў Лёндане на могілках Фінчлей.

Пакінуў Нябожчык у смутку жонку Эльлен, 17-гадовага сына Колю й 14-гадовую дачку Альжбету.

Сьпі спакойна, дарагі Сябра, у гасьцінна ангельскай зямлі. Хай Табе сьняцца сны роднай Беларусі, якую Ты шчыра любіў і хацеў яшчэ пабачыць.

**Ю. Весялкоўскі**

## ПАХОВІНЫ СЬВ. ПАМ. П. НАВАРЫ

Пасьля працяглае хваробы на рака, 24-га травеня сёлета перадчасна памёр Павал Навара, пакінуўшы жонку Элену, 17-гадовага сына Міколу й 14-гадовую дачку Элізабэту. Паховіны адбыліся 2-га чэрвеня. (Гл. таксама „Беларус" № 311)

Сьв. пам. П. Навара нарадзіўся 17 верасьня 1927 г. ў в. Асташына на Навагрудчыне.

Згодна з жаданьнем Нябожчыка абрад пахаваньня выканалі сьвятары БАПЦ Мітр. Прат. Янка Абабурка й Прат. Янка Пякарскі ў каталіцкай капліцы сьв. Пятра й Паўла ў Фінчлей з прысутнасьцяй Мітраф. Прат. Аляксандра Надсона. Прыгожа сьпяваў мяшаны хор. Апостал чытаўся ў беларускай і ангельскай мовах.

Айцец А. Надсон, выказваючы словы спачуваньня сям'і Нябожчыка, падзяліўся ўспамінам аб прыкладным жыцьцёвым шляху Паўла Навары, якім ён крочыў да самага канца. Ведаўшы ўжо пра свой немінучы адыход, Нябожчык не пераставаў цікавіцца беларускімі грамадзкімі справамі як на эміграцыі, гэтак і на Бацькаўшчыне, быў заўсёды сяброўскім і спагадлівым да патрэбаў іншых. Рыхтуючыся духова да разьвітальнага акту з усімі і ўсім, што яму было дарагім, выказаў пажаданьне, каб замест кветак на магілу прыяцелі склалі ахвяру на Беларускую Бібліятэку й Музэй імя Ф. Скарыны. „Кветкі хай жывуць і ўпрыгажаюць сьвет", казаў сьв. пам. Павал Навара.

Труна была пакрытая бел-чырвона-белым сьцягам — сьцягам, пад якім Нябожчык выйшаў з Бацькаўшчыны ды пасьля праводзіў сваю дзейнасьць як сябра Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, у якім займаў кіраўнічыя становішчы. Быў ён таксама адным з закладчыкаў Англа - Беларускага Таварыства, старшынём управы парахвіі БАПЦ у Лёндане, меў шырокае кола сяброў і прыяцеляў, пра што сьветчыла вялікая грамада ўдзельнікаў пахаваньня; з капліцы сьв. Панкрата на магільнік за труной ехалі пара дзесяткоў аўтамабіляў.

Над магілаю прамаўлялі Мітраф. Прат. Я. Абабурка, старшыня Англа-Беларускага Таварыства праф. Дж. Дынглі, старшыня ЗБВБ сп. Янка Міхалюк, які зачытаў шмат спачувальных лістоў і тэлеграмаў, прысланых прыяцелямі з шырокага сьвету.

Песьняй „Сьпі пад курганам гэрояў" разьвіталіся з дарагім Сябрам.

У памяць Нябожчыка ЗБВБ зладзіла хаўтурную бяседу, на якую былі запрошаныя ўсе ўдзельнікі паховінаў.

**Сябра А. Здановіч**

## ПАДЗЯКА

Вельмі дзякую ўсім сябром і прыяцелям майго нябожчыка-мужа Паўла Навары за іхнае шчырае цяпло й падтрыманьне ў часе хваробы мужа й ягонага пахаваньня.

**Элена Навара зь дзецьмі**
**Міколам і Элізабэтай**

## РЭЛІГІЙНАЯ БРАШУРА



# ПРАПОВЕДЗЬ ДЫЯКАНА ЎЛ. РУСАКА

У выдаваным радыястанцыяй „Свабода" „Архіве Самвыдавецтва" зьмешчаная, пад нумарам АС 5031, цікавая пропаведзь дыякана Расейскае Праваслаўнае Царквы Ўладзімера Русака, якую ён сказаў у Казанскай царкве ў Віцебску 28 сакавіка 1982 году.

Аўтар гэтае пропаведзі падаў крыху вестак пра сябе ў адкрытым лісьце да дэлегатаў VI-ае Генэральнае Асамблеі Сусьветнае Рады Цэркваў, што адбылася ў жнівені сёлета ў гор. Ванкувэры ў Канадзе. Ліст дыякана Русака быў апублікаваны ў ньюёркаўскай газэце „Новое Русское Слово" 13.VIII.1983 году. Ул. Русак піша:

„Я — радавы Расейскае Праваслаўнае Царквы. Даўгі час працаваў у рэдакцыі 'Журналу Маскоўскае Патрыярхіі', скончыў Маскоўскую духоўную акадэмію, служыў пры Архіепіскапе Валакаламскім Піціpыме, пасьля — у прыходзкіх цэрквах.

„Шмат гадоў у вольным ад рэдакцыі й службы ў царкве часе працаваў над матар'яламі зь гісторыі Расейскае Праваслаўнае Царквы навейшага пэрыяду (па рэвалюцыі 1917 г.). У 1980 г. я скончыў кнігу, якую назваў 'Сьветчаньне абвінавачаньня'.

„Уважаючы Архіепіскапа Піціpыма за свайго духовага айца, я, як на споведзі, расказаў яму ўсё пра гэтую кнігу. Цяжка перадаць, зь якой настойлівасьцяй ён на працягу даўгога часу угаворваў мяне поўнасьцяй зьнічшыць (!) гэтую працу. Я адмовіўся гэта зрабіць, і ён проста зволніў мяне з працы. (...)

„Тады мяне перавялі ў Беларусь, у Віцебск. Тут я сказаў у царкве пропаведзь, пасьля якое мне забаранілі служыць ды адаслалі ў ссылку ў манастыр".

Вось гэная пропаведзь:

### УЗЬЛЮБЛЕНЫЯ Ў ХРЫСЬЦЕ!

Ня першы год, ня першы раз ужо сёлета стаім мы ля крыжа, што нагадвае нам аб іншым, вялікім, адзіным і запраўды непаўторным Крыжы, што стаяў на Галгофе, і на Якім, бязьмерна мучачыся, паміраў укрыжаваны Госпад наш Ісус Хрыстос, Сын Божы.

На гэным Крыжы адбылася найвялікшая справа — выпраўданьне чалавека, усіх людзей уваччу Бога, адбылося Збаўленьне, як мы кажам.

На тым Крыжы паміраў Хрыстос, каб жылі мы, каб нам адкрылася магчымасьць Вечнага Жыцьця, якога пазбаўленыя нашы прародзічы, учыніўшы грэх. Бязьмерная Ахвяра была прынесеная на тым Крыжы — Прачыстая й Жыватворная Кроў Збаўцы.

І кажны раз, гаворачы пра гэта, думаючы пра гэта, мы не пакідаем задаваць сабе пытаньне: але-ж навошта менавіта гэткая Ахвяра патрэбная была Богу, чаму, калі грэх учыніў чалавек, цярпець павінен бязгрэшны Сын Божы? Ці не справядлівей было-б запатрабаваць ахвяру ад самога чалавека, запатрабаваць адказу ад таго, хто ўчыніў праступак багаадступніцтва?

Чалавек ад прыроды цікаўны. Дарэчы, гэтая самая дапытлівасьць і штурхнула першых людзей на непаслушэнства Богу: што-ж будзе, калі мы зьямо гэты яблык? Мы станемся як багі? Мы станемся ўладальнікамі поўнае веды пра дабро й зло?

І мы з вамі, заражаныя гэтай спадчыннасьцяй, сындромам цікаўнасьці, калі можна гэтак сказаць, таксама задаём сабе гэткія пытаньні, якія прасьцей і бесьпячней было-б наагул ня ставіць: навошта патрэбная была ахвяра менавіта Хрыста?

Мы маглі-б, пэўна-ж, пакорна апусьціўшы рукі, сказаць, што гэтак было прадугледжана Богам і ўсё: на гэтым пытаньне скончылася-б. Але ў нашым выпадку няма патрэбы пазбаўляць сябе суцяшэньня ведаць адказ на гэтае пытаньне.

Але, патрэбная была менавіта гэткая ахвяра і менавіта дзеля таго, што чалавек ня мог прынесьці Богу нічога, годнага выпраўданьня ягоных грахоў.

Вось-жа, паглядзем: што звычайна ўважаецца між людзей за найбольш дарагое й каштоўнае?

Выгоды жыцьця? Але ўваччу Бога гэта тлен, які сёньня ёсьць, заўтра яго няма. Дый уваччу нармальнага чалавека таксама.

Можа, слава? Але славу ня прынясеш у ахвяру. Дый ня хрысьціянская гэта справа. Да таго-ж і яна часовая.

Самае каштоўнае ў чалавека, нарэшце, само жыцьцё. Але-ж і яно ў руках Бога, Які ў кажны мамэнт можа ўзяць нашу душу.

І выходзіць, што ніякае ахвяры за свой грэх чалавек прынесьці ня можа. Апрача таго, навет калі-б ён і прынёс што-небудзь, дык толькі за сябе. А іншыя? Тыя нязьлічоныя пакаленьні, якія жылі да нас, жывуць адначасна з намі, і яшчэ будуць жыць пасьля нас — усе, што зграшылі ў Адаме?

Патрэбная была ахвяра нязьмерная, як нязьмерны чалавечы род і як нязьмерныя ягоныя грахі. Гэткую ахвяру мог прынесьці толькі Бог, і менавіта дзеля гэтага на Галгофаўскім Крыжы пад цяжарам сусьветных грахоў пакутаваў Хрыстос...

Ціраз Царква нагадвае нам пра тыя бязьвінныя пакуты Богачалавека, імя Якога мы носім і жыць паводля запаветаў Якога мы абяцалі ў сьвятым хрышчэньні. Дык чаму-ж, стоячы тут, уяўляючы сабе Крыж, зь якога сьцякае Прачыстая Кроў Збаўцы, сэрца нашае не разарвецца ад спачуваньня? Чаму хопіць выйсьці з царквы, як мы адразу-ж заныраемся ў прывычную будзёншчыну і да наступнага наведаньня царквы толькі рэдчас згадваем нашага Збаўцу ў кароткіх, рэдкіх і халодных малітвах? Чаму мы, як тыя сабакі (памятаеце апостальскі выраз?), варочаемся на свае ваніты й працягваем рабіць грэх, што выкуплены цаною Прачыстае Крыві Хрыстовае?

І на гэтыя пытаньні ёсьць адказ: таму, што грэх сядзіць у нас залішне глыбака, залішне ўчэпіста. А дзеля гэтага так мала ў нас спачуваньня, так мала ў нас справядлівасьці, і гэтак шмат у нас чэрствасьці й халоднасьці.

І вось тут мне хацелася-б сказаць колькі чалавечых словаў аб тым, над чым мы, нажаль, задумваемся даволі рэдка. Бо-ж на тым вялікім Галгофаўскім Крыжы, дарагія, побач з найвялікшай справай нашага збаўленьня было ўчыненае і найбольшае злачынства чалавека. На тым Крыжы самае зыркае й поўнае выяўленьне знайшла наша людзкая несправядлівасьць.

Калі церпіць разбойнік (а ён запраўды пакутуе), калі церпіць другі разбойнік, няхай разумны ( а ён таксама пакутуе — гэткія-ж крыжовыя пакуты), дык пакутуюць яны заслужана, справядліва, скажам па-чалавечы.

Хачу падкрэсьліць: справядліва. А Хрыстос? Што Ён зрабіў, вартае гэткае ганебнае й пакутлівае кары? Забіў? — Не. Вылечваў і ўваскрашаў. Ашукаў? — Не. Прынёс на зямлю праўду й ісьціну. І вось Ягоныя пакуты ўдзесяцярыліся, утысячарыліся бясконца за кошт несправядлівасьці, зь якою асудзілі Яго людзі на крыжовыя мукі.

Тут, ля Крыжа, асабліва выразна сталіся зразумелымі словы Пісаньня аб тым, што ўсякі чалавек — хлусьня. Тут, ля Крыжа на Галгофе, шырокім мутным патокам разьлілася па зямлі гэтая несправядлівасьць і хлусьлівасьць чалавека.

Сьвет з таго мамэнту падзяліўся на дзьве часткі: веручых у Хрыста й няверучых у Яго. Меч падзелу, які Хрыстос Сабою прынес у сьвет, абодвума вастрыямі выявіўся абернутым у бок хрысьціянаў. Палілася іхная кроў. Блізу тры стагодзьдзі найсуравейшых перасьледаў толькі за тое, што людзі ўверылі ў раскрыжаванага Хрыста. Тысячы й дзясяткі тысячаў мучанікаў, імёны якіх запаўняюць сьвятцы нашага календара.

Але Царкву нельга зьнішчыць мячом. Яе наагул нельга зьнішчыць. Мучанікі выявіліся непарушным фундамэнтам, на якім узрос цудоўны царкоўны будынак.

А пасьля быў іншы час. Замест пячорных цэркваў — раскошныя цэрквы-палацы, замест беднага ўбраньня — упрыгожанае каштоўнымі мэталямі й камянямі, замест перасьледу — пашана й слава. Але менавіта ад гэтага часу, як ні дзіўна, Царква страціла самае дарагое, што яна мае, — нутраную духовую прыгажосьць і прывабнасьць. Дакладней, яна ня страціла яе, а за вонкавым блескам яе стала цяжка бачыць. Да Царквы, Нарэчанай Хрыстовай, як сказаў адзін настаўнік Царквы таго часу, пачалі заляцацца не дзеля ейных духовых якасьцяў, а дзеля багатых вонкавых убораў.

І з Расейскай Царквою здарылася тое-ж самае. У ейным фундамэнце закладзеныя целы сьвятых мучанікаў Барыса, Глеба й Ігара, а далей — тая-ж вонкавая раскоша,

**(Заканчэньне на б. 7-й)**

## ПРОПАВЕДЗЬ ДЫЯКАНА

(Заканчэньне з б. 6-й)

за якою заўсёды цяжка разглeдзець нутраныя вартасьці. Дзевяць зь лішнім стагодзьдзяў нябеднага існаваньня. Але, відаць, недаволі выявілася ахвяры трох мучанікаў, каб Царква заставалася грамадзтвам збаўляных, а ня ведамствам дзяржаўнага апарату, якою яна фактычна была апошнімі двума стагодзьдзямі.

І вось тут невыпадкова адбываецца наша рэвалюцыя. Яна, як ні дзіўна, зрабіла вялізарную паслугу Царкве. Вас, відаць, абурае гэткае цьверджаньне, але я зараз пастараюся вытлумачыцца.

Рэвалюцыя й наша цяперашняя ўлада паднялі з задворкаў той самы меч, які шмат вякоў таму сьвяты Канстантын Вялікі выкінуў дзеля непатрэбнасьці па першых трох стагодзьдзях перасьледаў. Рэвалюцыя падняла яго, ачысьціла, навайстрыла ды з усёй сілаю йзноў ськівала супраць Царквы.

І зноў палілася кроў мучанікаў. Тысячы іх: архірэяў, сьвятароў, нядухоўнікаў, Расейцаў, Беларусаў, Украінцаў, людзей іншых нацыянальнасьцяў, нашых бацькоў і дзядоў. Каб не стамляць вас, падам адно колькі прыблізных лікаў.

За час ад рэвалюцыі да вайны, г.зн. за нейкіх 20 гадоў, у нашай краіне было зьнішчана каля 300 архірэяў, мітрапалітаў, архіепіскапаў, епіскапаў. Блізу 200 зь іх зьніклі бязь вестак. Вы можаце ўявіць, каб наш каханы Мітрапаліт Філарэт (Мітрапаліт Менскі й Беларускі — рэд. „Б-са"), прыкладам, узяў і прапаў сёньня бязь вестак? Але-ж прападалі архірэі й навет вышэйшае рангі.

Да вайны ў цэлай Расейскай Праваслаўнай Царкве былі толькі чатыры кіруючых епіскапы, улучаючы й будучага Патрыярха Сергія.

Ад 100 тысячаў сьвяшчэннаслужыцеляў, якія адпраўлялі службы ў больш як 80 тысячах сьвятыняў нашае Царквы, перад вайной засталася была жменька запалоханых і застрашаных.

Былі зруйнаваныя тысячы храмаў. Бальшыня тых, што захаваліся, былі зачыненыя.

У 1932 г. пачыналася другая пяцігодка (гэтак у арыгінале; пачатак другое пяцігодкі — 1933 г. — рэд. „Б-са"). Яе афіцыйна абвесьцілі бязбожніцкай. У праграме СВБ — была тады гэткая арганізацыя: Саюз Ваяўнічых Бязбожнікаў — прадбачылася да канца тае пяцігодкі зачыніць у нашай краіне апошнюю царкву й дамагчыся таго, каб слова „Бог" было выкрасьленае з нашае мовы. Шмат-жа хто з вас вельмі добра памятае тыя часы.

Наша Царква ўпрыгожылася і ўмацавалася дзесяткамі тысячаў мучанікаў. Ім няма помнікаў, да падножжа якіх мы маглі-б пакласьці кветкі, разам з пачуцьцём нашае спагады. У шмат каго зь іх няма навет магілаў: хто — на дне ракі, хто — у шахце, хто — спалены.

Але яны зрабілі сваю справу сваім мучаніцкім сконам. Яны паказалі нам, якім павінен быць хрысьціянін у нашых умовах. Сваёй духовай сілаю, апрача таго, яны асьвяжылі і ўмацавалі царкоўны арганізм ды паказалі абмежанасьць сілаў бязбожжа.

Як хрысьціяне, і мы ня можам абмінуць чашы, што прызначаная нам як дзецям Божым. Мы ня можам ськінуць із сваіх плечаў крыж, які ўзялі разам зь імём Хрыста.

Дык што-ж Мы лепшыя за Хрыста, у Якога быў крывавы крыж? Няўжо можна думаць, што пры пэўным спрыце можна й хрысьціянінам застацца, і бязбожнікам дагадзіць, і жыць бесклапотна, і закон Хрыстоў выканаць?

Можа мы лепшыя за апосталаў, якія амаль усе скончылі свой жыцьцёвы шлях памучаніцку, дый жыцьцё-ж у іх было далёка не салодкае. Няўжо-ж яны ня годныя былі лепшае долі ў гэтым жыцьці? А нам, значыцца, можна і тут бясклопатна і без пакутаў пражыць, і спадзявацца, даруйце, на цёплае месьцейка ў будучым жыцьці?

Не і яшчэ раз не. Крыж Хрыстоў — заўсёды цяжкі. І шлях Хрыста — заўсёды цярністы. І хрысьціянін ня можа ўхіліцца ад гэтае долі.

Хрыстос чакае ад нас чыстага сэрца. Але якое-ж яно можа быць чыстае, калі ў ім адначасна ўжываецца і любасьць да Хрыста, і дабразычлівасьць да Ягоных супраціўнікаў і перасьледвальнікаў? Чысты чалавек можа быць толькі з аднэй душой, а ня двудушны.

Пэўна-ж, у няверʼя вялізарная сіла. Ваш унук, прыкладам, нічога ня можа зрабіць, калі ў яго ў школе сілай зрываюць крыжык, ваш веручы сын ці дачка да нікога ня могуць пайсьці па справядлівасьць, калі ім заніжаюць адзнакі ў інстытуце ці выключаць зь яго, вашыя сваякі часта ня могуць працаваць там, дзе хочуць, толькі таму, што яны — веручыя. Ды ці мала ў чым праяўляецца сіла бязбожжа. Але гэта ўжо ня тая апантанасьць няверʼя, якую наша Царква перажыла ў 20-я й 30-я гады ці напрыканцы 50-х, пачатку 60-х гадоў. Мы цяпер спакойна выходзім з царквы пасьля службы, нас не чакае ведамы „варанок", мы спадзяёмся прыйсьці й наступным разам у царкву. Кроў нашых мучанікаў не прапала дарма.

Але дзеля таго, каб яна была яшчэ збаўленнай для нас, з нашага боку вымагаецца адно: памятаць яе, памятаць ахвяру нашых дзядоў і бацькоў, якія цаною жыцьця здолелі захаваць самае дарагое, што ў нас ёсьць — праваслаўную веру.

„Памятайце настаўнікаў вашых, — сказана ў Пісаньні, — якія прапаведвалі вам Слова Божае, — і гледзячы на скон іхны, пераймайце іхную веру".

Бяз сувязі з нашымі продкамі няма нас самых. Нашыя бацькі й дзяды — нашыя карані, што кормяць нас жыватворнымі сокамі душы. Магчыма, што якраз ахвярамі нашых мучанікаў мы ратуемся ад гневу Божага. Бо-ж існуе думка, што адзін праведнік збаўляе сваіх нашчадкаў да сёмага калена.

А мы, мала таго, што паблюзьнерску забыліся пра іхнюю кроў і пакуты, а праступна абылгалі іхны вычын. Заміж таго, каб проста паказаць на спраўцаў іхнага мучаніцтва, мы казуістычна ўскладаем віну на іх-жа самых: бач, яны самыя вінаваты ў тым, што занялі нелялюльную пазыцыю ў дачыненьні да ўлады. А якую-ж, даруйце, нармальны царкоўны чалавек павінен займаць пазыцыю ў дачыненьні да бязбожнае, і навет больш таго — антыхрысьціянскае, улады?

Нашыя новыя мучанікі сваім сконам паказалі, якой павінна быць вера наша. Мы забавязаныя браць прыклад зь іхнае веры, але перш хоць-бы памятаць іх.

І калі выходзячы з царквы, вы, у сьвятле непамерных пакутаў Збаўцы Хрыста, прыгадаеце, няхай сабе бязыменна, аб крыві нашых новых мучанікаў, якія аддалі жыцьцё за тое, каб не бясплоднымі былі пакуты Хрыста, дык не дарма яны пакутавалі, і я з радасьцяй буду ўважаць, што не дарма стамляў вас сваймі словамі.

## СЬВ. ПАМ. АЎГЕНЯ КАРАНЕЎСКАЯ

30-га сакавіка сёлета беларускае грамадзтва Сыднэю (Аўстралія) панесла вялікую страту: на 65-м годзе жыцьця, пасьля працяглае хваробы на рака, памерла сьв. пам. Аўгеня Каранеўская (гл. „Беларус" № 310 і № 311).

Нябожчыца нарадзілася 6 студзеня 1919 г. ў маёнтку Ясны Лес на Бабруйшчыне й паходзіла са старога баярскага роду.

У 1920 г. Аляксей Воўк-Левановіч, бацька Аўгені, пабачыўшы, што нясе з сабой бальшавіцкая „народная ўлада", падаўся на Захад. Знайшлі Левановічы сабе прыпынішча ў мястэчку Мядзьведзічы Баранавіцкае акругі. Жыцьцё давялося пачынаць зь нічога нанова. Аляксей Левановіч адкрыў у Мядзьведзічах невялікае мясное прадпрыёмства, якое дало магчымасьць вучыць усіх сваіх чацьвёра дзяцей у віленскай Беларускай Гімназіі.

Аўгеня скончыла гімназію ў 1937 г. і два гады наведвала хэмічны факультэт Віленскага Ўнівэрсытэту. З прыходам бальшавікоў вяртаецца ў Мядзьведзічы, дзе працуе настаўніцай беларускае мовы ў мясцовай школе.

У часе нямецкае акупацыі выкладала беларускую мову ў Баранавічах, працавала грамадзка. Наколькі папулярнай была тады 25-гадовая настаўніца, сьветчыць тое, што яна была дэлегаткай ад Баранавіцкае акругі на 2-ім Усебеларускім Кангрэсе ў чырвені 1944 году.

Зь Беларусі, як і бальшыня ўцекачоў, трапіла ў Нямеччыну. Там у 1946 г. выйшла замуж за інж. Міколу Каранеўскага, а ў 1949 г. эмігруе ў Аўстралію. Тут, хоць і не бязь цяжкасьцяў, Каранеўскія адукавалі сваіх двое дзяцей, Сьвятаслава й Марыльку — абое архітэктары.

Доля аднак ня спрыяла Нябожчыцы, бо ў 1965 г. ў маладым веку памёр брат, у 1973 г. — муж, а ў 1977 — бацька Аляксей.

Усе гэтыя сямейныя няшчасьці й перажываньні ня сталіся ўсё-ж перашкодай самаадданай грамадзкай працы сьв. пам. Аўгені Каранеўскае. Яна была сябрам і даўгія гады старшынём сэктару Рады БНР, кальпартавала беларускую прэсу, брала чынны ўдзел ува ўсіх грамадзкіх арганізацыях Сыднэю, а на працягу апошніх шасьцёх з паловінаю гадоў зрабіла вялізарны ўклад у рэдагаваньне й дыктарства беларускіх радыяперадачаў.

Адыйшла ад нас палымяная патрыётка, асоба крыштальнае справядлівасьці, бязупынная працаўніца й змагарка за лепшую долю для нашае Бацькаўшчыны.

Вечная Ёй памяць!

**М. Л.**

## ПАРАХВІЯЛЬНЫ МАГІЛЬНІК У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

Парахвія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе (штат Агаё, ЗША), якая заснавалася 14 кастрычніка 1951 г., доўгі час ня мела свайго магільніка. Напачатку, калі яшчэ ня мелі свайго царкоўнага будынку й адпраўлялі службы ў нанятай залі, хавалі сваіх памерлых парахвіянаў на гарадзкім магільніку Бруклін у аднэй сэкцыі й недалёка адзін ад аднаго. Першым парахвіянінам і сябрам беларускае калёніі новае эміграцыі быў пахаваны тут Пётра Еўстафіеў у 1952 годзе. Пазьней яшчэ было пахована на гэтым магільніку шэсьць парахвіянаў.

8-га сьнежня 1978 г. была падпісана ўмова паміж парахвіяй Жыровіцкае Божае Маці Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы і адміністрацыяй Рывэрсайдзкага магільніка на 189 магілак у сэкцыі 25-ай. Адміністрацыя выгарадзіла гэты магільнік жызаплотам, прадае зямлю парахвіянам толькі з дазволу настаяцеля ці парахвіяльнае рады, даглядае дзялянку, косіць траву ды хавае нябожчыкаў. Індывідуальныя помнікі можна стаўляць вялікія й малыя. Адміністрацыя ахвяравала таксама месца на агульны царкоўны помнік.



**Царкоўны помнік на Беларускім магільніку ў Кліўленьдзе. На помніку надпіс: Miraculous Image in 1470. Zyrovicy, Byelorussia. In Memory of Members of Mother of God of Zyrovicy. Byelorussian Autocephalic Orthodox Church in Cleveland. Founded, October 14, 1951. Фота: А. Дубягі.**

Пасьля, як купілі пляц і пабудавалі царкву ў 1959 г., пачалі хаваць сваіх парахвіянаў на другім гарадзкім магільніку Рывэрсайд, які знаходзіцца адзін квартал ад царквы, у аднэй сэкцыі й недалёка адзін ад аднаго. Першым тут быў пахаваны Сымон Яраховіч у 1965 г. За ім пачалі хаваць там-жа й далей, і гэта дало пачатак заснаваньню будучага беларускага магільніка.

Аднак парахвіяне ня былі задаволеныя, бо ўсе магілкі былі ў розных месцах, і людзі выявілі жаданьне, каб выдзяліць беларускую сэкцыю магільніка асобна. Зьвярнуліся да адміністрацыі Рывэрсайду. Спачатку адміністрацыя прызнала асобную дзялянку, але ў вельмі нізкім месцы, на што мы не пагадзіліся. Пазьней дзялянка была даная на ўзгорку.

Пасьля доўгае дыскусіі над праектам помніка, ягонай формай і вялічынёй, агульны царкоўны помнік быў пастаўлены ў 1983 г. вышынёю 12 футаў і 6 інчаў (3,9 м.). Цяпер парахвіяне пачалі купляць сабе зямлю загадзя і стаўляць помнікі. Першаю была пахавана на гэтым новым магільніку сьв. пам. Тэадора Яраховіч, матка матушкі Натальлі Страпко. Цяпер заўсёды на правадную нядзелю, пасьля Вялікадня, робяць ўрачыстыя памінкі памерлых на сваім беларускім магільніку, як на Бацькаўшчыне.

29-га травеня сёлета Яго Высокапрэасьвяшчэнства Архіепіскап БАПЦ Мікалай з настаяцелям а. М. Страпком, дыяканам Якубам, у прысутнасьці сьвятароў, парахвіянаў і гасьцей, урачыста пасьвяцілі гэты помнік.

**К.**

## СЬВ. ПАМ. АНТОН ЯНОВІЧ

Пасьля працяглае хваробы адыйшоў на вечны супакой 30 чырвеня 1983 г. сьв. пам. Антон Яновіч, пакінуўшы ў вялікім горы й смутку дачку Галіну, сына Васіля, зяця Мікалая, нявестку Жэню ды ўнукаў Антона, Юльляна й Лару.

Нябожчык нарадзіўся ў мястэчку Мілейчыцы на Беласточчыне ў Беларусі. Пахаваны на магільніку Чэнтэльгайм. Абрад пахаваньня выканаў а. Яўгень.

Вечная памяць, дарагі Антон, хай будзе пухам Табе аўстралійская зямелька ды спачывай там, дзе ўсе праведнікі спачываюць.

Аб сьмерці сьв. пам. Антона Бялевіча з глыбокім сумам паведамляе й выказвае сваё спачуваньне дзецям і ўнукам Нябожчыка Беларускае Абʼеднаньне ў Паўдзённай Аўстраліі.

**Янка Ролсан**

## СЬВ. ПАМ. МАРʼЯН ПЯЦЮКЕВІЧ

Даўгагадовы вязень савецкіх турмаў і канцэнтрацыйных лягероў, былы загадчык аддзелу савецкі Бібліятэкі ім. Ўрублеўскіх у Вільні, дырэктар Беларускага Музэю ім. Ів. Луцкевіча ў Вільні ў 1939-41 г.г., інспэктар беларускіх школаў у Ашмяншчыне ў 1941-43 г.г.; этнограф, дацэнт беларусаведы Беларускага Мэдычнага Інстытуту ў 1943-44 г.г., адзін із закладчыкаў і сябра рэдакцыйных калегіяў часапісаў „Шлях Моладзі" й „Калосьсе" ў Вільні, нарадзіўся 24 верасьня 1904 г. ў в. Цяцерках на Браслаўшчыне, памёр 13 верасьня 1983 г. ў г. Торуні (Польшча), аб чым з глыбокім сумам паведамляе

**Сямʼя**

З Волі Божае 7-га жніўня сёлета адыйшоў на вечны супачынак

## СЬВ. ПАМ. ПАВАЛ ЯСЬКЕВІЧ

13.VI.1923 — 7.VIII.1983

Семʼі Яськевічаў і Кендышаў складаюць шчырую падзяку Высокапраасьвячэннаму Архіепіскапу Ізяславу за адпраўленыя пахавальныя багаслужбы і ўсім тым, хто выразіў спачуваньні ў гэты цяжкі для нас час.

**Ольга Яськевіч**

## СЬВ. ПАМ. СТАНІСЛАЎ МАК

Пасьля цяжкое й працяглае хваробы, адыйшоў на вечны супакой 20 чырвеня сёлета ў Брадфардзе (Ангельшчына) сьв. пам. Станіслаў Мак. Нябожчык, былы падахвіцэр Беларускае Краёвае Абароны й выпускнік Лювэнскага Ўнівэрсытэту, быў вернікам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, беларускім прадстаўніком у Камітэце Паняволеных Народаў у Брадфардзе, скарбнікам аддзелу Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі й беларускага грамадзкага клюбу „Сакавік", а таксама належаў да гуртка „Васілёк" Беларусаў паўн. Ангельшчыны ў Брадфардзе.

Паховіны адбыліся 27-га чырвеня паводля праваслаўнага абраду на могільніку Шоля Мор у Брадфардзе. Акт пахаваньня выканаў Мітр. Прат. а. Янка Абабурка, настаяцель БАПЦ у Вялікабрытаніі.

„Сьпі пад Курганам Гэрояў, сьпі, працаўнік і змагар . . ."

Хай лёгкай будзе Табе ангельская зямелька, а колер сіні васілька хай напамінае аб далёкай Беларусі.

**Рада БАПЦ у Вялікабрытаніі**
**Парахвіяльная Рада БАПЦ у Брадфардзе**
**Гурток „Васілька" ў Брадфардзе**



## ПРОСЬБА ДА СУПРАЦОЎНІКАЎ

Каб прысьпешыць выхад кожнага наступнага нумару газэты, калі ласка, прысылайце матарʼялы **надрукаваныя на машынцы (праз радок)**, каб машынапіс з папраўкамі можна было адразу здаць у друкарню, а не перапісваць усё нанова. Калі пішаце ад рукі, таксама пішэце, калі ласка, праз радок: гэта палягчае перабіваньне на машынцы.

З падзякаю за супрацоўніцтва,

**Рэдакцыя „Беларуса"**

**ПАПРАЎКА**
**ў адрысе „Беларуса"**

Новы „зып коўд":

Bielarus
P.O. Box 178
Jamaica, N.Y. 11432 (а ня 11431)
U.S.A.

## ЗДАБЫЎ ВЫШЭЙШУЮ АСЬВЕТУ

У красавіку сёлета Пятрусь Бакуновіч, сын Міграфана й Міраславы Бакуновічаў, скончыў Сыднэйскі Ўнівэрсытэт (Аўстралія) з тытулам інжынера электронікі.



Аб Пятрусю трэба сказаць, што яшчэ ў гімназіі ён быў першым вучнем ня толькі ў сваёй клясе, але і ў цэлай гімназіі. Традыцыю гэтую ён працягваў таксама й на ўнівэрсытэце — быў першым студэнтам, на што зьвярнулі ўвагу шмат якія кампаніі Аўстраліі й прапанавалі яму працу, калі ён быў яшчэ на трэйцім годзе ўнівэрсытэту.

Ганарыліся ягоныя бацькі тым, што пасьля сканчэньня ўнівэрсытэту Пятрусь яя шукаў працы — ён выбіраў яе.

Праца аднак не задаволіла амбіцыяў Пятруся. Ён пайшоў на міжнародны экзамін, каб паступіць у Graduate School of Management Economics. Вынік экзаміну атрымаў з Амэрыкі: здаў на 99% (ацэнка „A"). Атрымаў лісты ад унівэрсытэтаў з Амэрыкі,Гішпаніі, Францыі й Швайцарыі, якія адкрываюць яму дзьверы для далейшае навукі. Сумна, аднак, што бацьком Пятруся фінансава не па сіле, каб аплаціць навуку сыну за граніцаю. Таму галоўны занятак Пятруся, пакуль за працаю — знайсьці таго, хто згадзіўся-б даць яму стыпэндыю на працягваньне навукі.

Дык вітаем бацькоў Пятруся з другім інжынерам у сям'і, бо першы сын Жорж таксама здаў экзаміны першым у клясе ды выбіраў сабе працу. Пятрусю жадаем удачы ў будучыні й хуткага атрыманьня стыпэндыі!

**Ул. Б.**

## РЭСПУБЛІКАНСКІ КАЛЯНДАР

Рэспубліканскі Каляндар Нацыянальных Сьвятаў, выдадзены ў Вашынгтоне Галоўнай Кватэрай Нацыянальных Рэспубліканскіх Арганізацыяў Амэрыкі пры Нацыянальным Камітэце Рэспубліканскае Партыі на 1983 год, уключае гэткія беларускія сьвяты:

**Дзень Кастуся Каліноўскага,** беларускага дзеяча й героя, адзначаецца 10 сакавіка (угодкі пакараньня сьмерцяй 10.III.1864 г.).

**Дзень Беларускае Незалежнасьці** адзначаецца 25 сакавіка (1918 г.).

**Дзень Слуцкага Паўстаньня** адзначаецца 27 лістапада (1920 г.).

На кожнае сьвята даецца кароткая гістарычная даведка. Каляндар гэты мае вельмі вялікі тыраж і ім карыстаюцца ня толькі рэспубліканцы але й дэмакраты ды шмат якія школьныя акругі набываюць каляндар для азнаямленьня моладзі з большымі сьвятамі розных нацыянальнасьцяў Амэрыкі.

## ЗВАРОТ

**Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва** апрача падрыхтоўкі збору твораў Міхася Кавыля мае ў пляне падрыхтаваньня наступныя выданьні:

**ЗАПІСЫ, кніга 18-я.**

**Бібліяграфія Скарыніяны ад 16-га стагодзьдзя да 1983 г. (панад 5 тыс. пазыцыяў).**

**Бібліяграфія: Купала й Колас на Захадзе** (панад 2 тыс. пазыцыяў).

**Анталёгія: беларускія паэты аб нашай мове** (больш за 120 аўтараў).

Гэтым ВІНіМ зварачаецца да грамадзтва з просьбай дапамагчы ў рэалізацыі выдавецкіх плянаў, прысылаючы падпіску ці ахвяры на выдавецкі фонд Інстытуту або канкрэтна на тое ці іншае выданьне.

**Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва**

## ВЫСТАЎКА ЭТНІЧНАГА ДРУКУ

Ад другой паловы ліпеня да першага верасьня сёлета ў Нью-Ёркаўскай Публічнай Бібліятэцы, што на скрыжаваньні Пятага авэню й 42-й вуліцы, адбывалася выстаўка этнічнага друку гораду. Арганізавала выстаўку Публічная Бібліятэка на прапанову Гарадзкое Ўправы ды мэра гор. Эдварда Коча. Выстаўленыя былі сёньняшнія газэты гораду ды буйнейшыя часапісы апошніх дзесяцігодзьдзяў: больш за 150 экспанатаў у блізка сту мовах.

У тлумачальных анатацыях было зазначана, што выстаўленыя друкі абслугоўваюць колькі мільёнаў жыхароў Нью Ёрку й сумежных штатаў ды што выданьні гэтыя — важныя крыніцы інфармацыі для неангламоўнага чытача, якія адначасна становяць частку амэрыканскае культуры й сувязяў Амэрыкі зь дзесяткамі іншых краінаў.

На выстаўцы былі паказаныя й беларускія друкі: газэта „Беларус" (два нумары й сёлетні каляндар) ды лігаратурна-мастацкі часапіс „Конадні", які выдаваўся Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва.

Выстаўка этнічнага друку ў Нью-Ёркаўскай Публічнай Бібліятэцы, што адбывалася якраз у сярэдзіне турыстычнага сэзону, карысталася вельмі вялікай папулярнасьцяй, была шырака рэклямаваная. Выстаўку наведвала ад 2-х да 4-х тысячаў гледачоў штадня.

## АГЛЯД БЯГУЧЫХ ПАДЗЕЯЎ У БССР

У Штутгарце ў Заходняй Нямеччыне выдаецца двойчы на год панямецку агляд бягучых падзеяў на Беларусі: палітычных, культурных і эканамічных. Выйшаў апошні выпуск агляду за першае паўгодзьдзе сёлета (27 старонак). Агляды робяцца на аснове беларускага савецкага друку й радыеперадачаў ды маюць у сабе шмат фактычнага матар'ялу. Пісаць на адрыс: Weissruthenischer Arbeitskreis, Postlagernd, 7000 Stuttgart 50, Bundesrepublik Deutschland (W. Germany).

## МЭДАЛІ СПАРТСМЭНСКІ З ГОРАДНІ

Спартсмэнка-плывец з Горадні Ірына Ларычава, якая была ў складзе савецкае каманды на XII Сусьветных студэнцкіх гульнях у Эдмантане ў Канадзе, здабыла пяць залатых мэдалёў. Усіх мэдалёў савецкая каманда, якая выйшла на першае месца, здабыла 59 залатых, 29 сярэбраных і 27 бронзавых. На другім месцы — амэрыканскія спартсмэны з адпаведным лікам мэдалёў: 12, 22 і 30. (**ГР** № 29, 21. VII.83).

## ШЛЮБ ГАЛІНЫ ШВЭДЗЮК

Сёлета 21-га травеня ў Брадфардзе (Ангельшчына) узялі шлюб у праваслаўнай царкве Галіна Швэдзюк із Стывэнам Кіркгамам. Шлюбны абрад выканалі а.а. Арсень і Міхаіл.

Маладая пара, выпускнікі Астонскага Ўнівэрсытэту ў Бірмінгаме, працуюць акулістамі.

Галіне й Стывэну жадаем шмат шчасьця ў іхным супольным жыцьці.

**Бацькі Міхаіл і Анастасія Швэдзюкі**

## КНІГА АРКАДЗЯ ЛЬВОВА

Аркадзь Львоў, як бэлетрыст — праніклівы аналітык, як нарысіст — вельмі панарамны, ён дасканальны стыліст і апавядальнік, а як даследнік гэбрэйскае тэматыкі ў расейскай літаратуры — зразумелы сваімі паглядамі й ацэнкамі нерасейскім нацыянальнасьцям, у тым ліку й нам. Творы А. Львова перакладаюцца цяпер на Захадзе ў француcкую, ангельскую ды іншыя мовы.

Апошняя кніга пісьменьніка (першая з трох) — цікавая спроба даследваць гэбрэйскую мэнтальнасьць на прыкладзе савецкіх расейскамоўных пісьменьнікаў Бабеля, Э. Багрыцкага, М. Сьвятлова, Ё. Уткіна і В. Інбер. Кніга загалоўленая „Утоление печалью". Выпісаць яе можна ад аўтара (цана 11 дал.):

Mr. A. Lvov
64 Essex St., Apt. 23 G
New York, N.Y. 10002

## АБВЕСТКА

Калі хто жадае запрасіць беларускую аркестру на вясельле ці якую-небудзь іншую імпрэзу, прапаную запрашаць добрую аркестру ВАЛОДЗІ БЫЧКОЎСКАГА з Саўт Рывэру, Н. Дж.

Будзеце задаволеныя беларускай мэлёдыяй і выдатнай музыкай.

**Тамара Януш,**
**Старшыня Жаночае Сэкцыі БАЗА**

Адрыс:

19 Hardenberg St.
New Brunswick, N.J. 08901

## ТЭЛЯБАЧАНЬНЕ Й ФАЛЬКЛЁР

Паводля артыкулу праф. др. Юліі Чурко ў газ. „Советская Белоруссия" (3.IX.83), сучасныя сродкі масавае інфармацыі спрыяюць папулярызацыі фальклёру на Беларусі. „Тэлябачаньне й радыё, — піша Ю. Чурко, — як-бы даюць народнай творчасьці 'другое дыханьне', прыводзячы яе ў кожны дом, уплываючы навет на ейнае функцыянаваньне ў быце: зьменьваецца стаўленьне вясковых жыхароў да фальклёру, паводля тэлевізійных узораў у шмат якіх раёнах пішуцца сцэнарыі 'вячорак', арганізуюцца калектывы, і навет некаторыя, здавалася-б, традыцыйныя песьні й танцы пры больш блізкім азнаямленьні выяўляюцца раптам вызначанымі з дапамогаю таго-ж сродку масавае камунікацыі".

## ФІЛЯТЭЛІСТАМ

**Арганізацыя Аб'еднаных Нацыяў** выпусьціла 23 верасьня сёлета сэрыю марак са сьцягамі колькіх дзяржаваў-сяброў ААН. У сэрыі — і сьцяг БССР. Цана маркі — 20 ам. цэнтаў, тыраж — 4 мільёны штук. Атрымаць маркі можна пішучы на адрыс: United Nations Postal Administration, New York, N.Y. 10017, U.S.A.

**На зьезьдзе ўкраінскіх філятэлістаў** у Глэн Спэй у штаце Нью Ёрк (каля Бэлер-Менску), што адбыўся 24-25 верасьня сёлета, была выстаўка і беларускіх марак, якую наладзіў сп. Багдан Паўк з Чыкага.

## ВЫДАНЬНЕ ЗБОРУ ТВОРАЎ МІХАСЯ КАВЫЛЯ

**Падпіска й ахвяры**

Атрымана ў храналягічным парадку да 15 верасьня 1983 г. (працяг)

138. Махнач В. і М. (другі раз) .................... $ 20.00
139. Кудасава Н. .................... 10.00
140. Рагуля М. .................... 20.00
141. Шурак Л. .................... 20.00
142. Тумаш В. (малодшы) ...... 50.00
143. Пашкевіч В. і М. ............ 50.00
144. Апацкі С. .................... 5.00
145. Калядка М. .................... 5.00
146. Кліўлендзкі .................... 5.00
147. Каранеўскі М. ............ 10.00
148. Бакуновіч У. .................... 25.00
149. Рагуля Б. .................... 20.00
150. Лешчанка С. .................... 50.00
151. Касоўская Л. .................... 30.00
152. Матушка В. Лапіцкая ...... 20.00
153. Купрэвіч І. .................... 20.00
154. Ждановіч В. .................... 20.00
155. Варановіч К. .................... 25.00
156. Дзяркач М. .................... 20.00
157. Кіпель В. і З. — ахвяра замі<br>ж вянка на магілу в. пам. Івана Цупрыка .... 50.00

**Разам: $ 475.00**

З папярэдняй падпіскай і ахвярамі агульная сума на 15 верасьня 1983 г. **$ 4.808.00**

Падпіска й ахвяры прыймаюцца далей.

Выстаўляць чэкі й пісаць на адрыс:

Byelorussian Institute of Arts
& Sciences, Inc.
230 Springfield Ave.
Rutherford, N.J. 07070

## ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"

## ДАПАМАЖЭЦЕ ВЫСЛАЦЬ ПАЧКІ БЕЛАРУСАМ У ПОЛЬШЧУ

Жаночая дапамаговая арганізацыя, што займаецца высыланьнем пачкаў Беларусам ў Польшчы, патрабуе ахвяраў грашыма на высылку пачак да сёлетніх калядных сьвятаў. Калі ласка, памажэце зрабіць суродзічам у Польшчы сьвяточныя падарункі — пасылайце ахвяры, хто колькі можа, на адрыс:

Mrs. A. Romano
172 Mill Spring Rd.
Manhasset, N.Y. 11030

Справаздача будзе дадзеная праз газэту „Беларус".

**Юля Андрусышына**
**Алла Рамана**

## НАБЫВАЙЦЕ КНІГУ ПРА М. БАГДАНОВІЧА

Выйшла з друку аповесьць Уладзімера Глыбіннага пра Максіма Багдановіча — „Пад лебядзіным знакам".

У аповесьці, на аснове Багдановічавае творчасьці й біяграфічных фактаў, аўтар малюе жыцьцёвы й творчы шлях ды грамадзкае наваколье клясыка беларускае літаратуры.

Пашырыць кніжку пра Багдановіча ўзялося, у сувязі зь цяжкой хваробай аўтара, выдавецтва газэты „Беларус". З кожнага прададзенага экзэмпляру сп-ня Сядура ахвяравала **30% на газэту.** Цана кнігі — 9 даляраў.

## УВАГА!

Асобы якія дастаюць газэту „Беларус" ад сп. **Б. Даніловіча,** павінны перадаваць падпіску й ахвяры яму, выпісваючы чэкі на ягонае імя ды перасылаць на ягоны адрыс:

Mr. B. Danilovich
303 Howard Street
New Brunswick, N.J. 08901

**Адміністрацыя „Беларуса"**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"

У чырвені-ліпені-жнівені 1983 г.

**Пераслана беспасярэдна ў Рэдакцыю:**

1. Жаночае Згуртаваньне ў Кліўленьдзе ............ $ 125.00
2. Н. Кудасаў .................... 100.00
2. Н. Кудасава .................... 100.00
4. В. і М. Махначы .................... 80.00
5. Я. Цірко .................... 50.00
6. А. Монід .................... 50.00
7. В. Бакуновіч .................... 35.00
8. Г. Багдановіч .................... 25.00
9. Л. Кавалёў .................... 25.00
10. М. Кулягін .................... 25.00
11. Я. Сажыч
12. В. і Р. Жук-Грышкевічы .... 25.00
13. М. Белямук .................... 20.00
14. М. Буцька .................... 20.00
15. М. і М. Кучура .................... 20.00
16. Ю. Мазура .................... 20.00
17. Б. Грабінскі .................... 20.00
18. Г. П. .................... 20.00
19. К. Загонэк .................... 20.00
20. Д. Ясько .................... 10.00
21. О. Яськевіч (за нэкрлёг) 10.00
22. Паводля тэстамэнту сьв. пам. Вінцэнта Сьпічонка ахвяра на „Беларуса" .... 2241.04
23. Ад імя сьв. пам. В. Сьпічонка (за нэкралёг) .................... 80.00

**Разам $3146.04**

Праз прадстаўніка „Беларуса" сп. Б. Даніловіча падпіска й ахвяры:

1. Ю. Наумчык .................... $ 25.00
2. Парахвія БАПЦ у Гайленд Парку, Н. Дж. .................... 25.00
3. А. Літаровіч .................... 24.00
4. В. Сітнік .................... 20.00
5. А. Нэстар .................... 15.00
6. К Міpановіч .................... 12.00
7. Я. Азарка .................... 12.00
8. Г. Г. .................... 12.00
9. а. С. Коўш .................... 12.00
10. А. Кузьміч .................... 12.00
11. Б. Букатка .................... 12.00
12. Я. Валодзька .................... 12.00
13. Я. Цыган .................... 12.00
14. А. Махнюк .................... 12.00
15. Л. Шурак .................... 12.00
16. А. К. .................... 10.00
17. Я. С. .................... 2.00

**Разам: $241.00**

**БЭЛЬГІЯ**

1. Айцец А. Смаршчок ......... 20.00

## У КЛІЎЛЕНДЗКІМ АДДЗЕЛЕ БАЗА

У Кліўлендзкім аддзеле Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня адбыўся 14 жніваня 1983 г. справаздачна-перавыбарны сход. У новую ўправу былі абраныя наступныя асобы: Я. Раковіч — старшыня, А. Стрэчань — заст. старшыні, А. Яраховіч — скарбнік, К. Калоша — сакратар, Я. Якавенка — сябра. У рэвізійную камісію ўвайшлі: К. Каляда, С. Карніловіч і Я. Хакенка. За дэлегатаў на 20-ты Кангрэс БАЗА былі абраныя: К. Калоша, А. Стрэчань, Я. Хакенка, К. Каляда і Г. Кананчук.

**П. Б.**

## КАЛЯДНЫЯ ВІНШАВАНЬНІ

Прывітайце сваіх сяброў і знаёмых з калядна-навагоднымі сьвятамі праз газэту „Беларус", як гэта шмат хто робіць штагоду. Паведамце загадзя, ці ўлучыць Ваша прозьвішча ў лік тых, хто шле праз газэту сьвяточныя пажаданьні. Ахвяра на „Беларуса" за ўдзел у віншаваньнях — 10 даляраў.

**Рэдакцыя „Беларуса"**

## ЧЭКІ НА „БЕЛАРУСА

**Просьба да ўсіх:**

Перасылаючы грошы на газэту „Беларус", калі ласка выпісвайце чэкі на **Bielarus** (а не Byelorussian Newspaper ці йнакш). Пажадана таксама, каб грошы перасыліліся ў амэрыканскіх далярах — гэта аблягчае банкаўскія транзакцыі й зашчаджае час супрацоўнікам рэдакцыі для іншых грамадзкіх патрэбаў. Ухіляйцеся таксама ад перасыланьня банкнотаў у мясцовай валюце. Найлепшая форма грашовага пераказу — **чэк у ам. далярах.**

**Рэдакцыя „Беларус"**

## АЎСТРАЛІЯ

**Падпіска й ахвяры:**

1. М. Зуй ............ аўстр. дал 42.00
2. Бел. Аб'еднаньне ў Зах. Аўстр. ................ $ 218.78

Пераслана з Адэляйды сп. П. Трысмаковам:

1. П. Пачопка .................... 24.90
2. В Акавіты .................... 16.60
3. М. Бурнос .................... 16.60
4. М. Костышына .................... 12.45
5. К. Зеленеўскі .................... 12.45
6. П. Трысмакоў .................... 12.45
7. І. Ролсан .................... 12.45
8. К. Станкевіч .................... 8.54
9. Цітовіч .................... 8.54

**Разам: $ 124.78**

Пераслана з Сыднэю сп-чнай М. Каранеўскай:

1. Л. Парэцкі ...... аўстр. дал. 41.00
2. М. Сежановіч .................... 26.00
3. Г. Олрайт .................... 16.00
4. А. Бакуновіч .................... 16.00
5. М. Бакуновіч .................... 16.00
6. О Качан .................... 16.00
7. М. Каранеўская .................... 16.00
8. В. Ліпскі .................... 16.00
9. М. Лужынскі .................... 16.00
10. С. Нарушэвіч .................... 16.00
11. А. Смаль .................... 16.00
12. М. Антух .................... 16.00
13. В. Русак .................... 16.00
14. В. Кобрын .................... 16.00
15. М. Мілеўскі .................... 16.00
16. О. Тамашэўская .................... 16.00

Разам: аўстр. дал. 291
**У ам. валюце $ 255.38**

Пераслана з Мэльбурну сп. М. Нíканам (за калядныя пажаданьні):

1. М. Нікан .................... $ 10.00
2. М. Скабей .................... $ 10.00
3. М. Максімаў .... аўстр. дал. 35.00
4. А Грынько ...... аўстр. дал. 10.00
5. Л. Яцкевіч ...... аўстр. дал. 15.00
6. З. Кадняк .................... $ 25.00
7. А. Кукель .................... 18.00
8. Т. Лашук .................... 15.00
9. А. Груша .................... 10.00

**Разам ад. сп. Нікана: $ 140.90**
**Усяго разам: $ 4066.88**
**і аўстр. дал. 42.00**

**Усім ахвярадаўцам, падпішчыкам і прадстаўніком газэты шчыры беларускі дзякуй!**